


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

18 красавіка 2003 года

№ 16 (417)
Выходзіць па пятніцах

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

*«Рэгіянальная газета» віншуе са святам Вялікадня ўсіх хрысціянаў, якія ў гэтыя дні адзначаюць уваскрэсенне Хрыстова, і зычыць ім вясёлых святаў!*

### У «госці» да бабулі

ВІЛЕЙКА. Значна абагаціліся злодзеі, якія у ноч з 13 на 14 красавіка ўварваліся ў адну з хат у вёсцы Снежкава.

У 88-гадовай гаспадыні выкралі 2341 долар ЗША, 600 тысяч беларускіх рублёў, каля 10 залатых манет царскай чаканкі, 40 бутэлек гарэлкі і 3 літровыя бутэлькі спірту "Royal". Па словах бабулі, яе асляпілі ліхтарыкам. Узбуджаная крымінальная справа.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### «Дагадзіў»

ВАЛОЖЫН. Адзін з жыхароў раёна пашкодзіў калгасны бульбаўборачны камбайн.

Аказалася, зрабіў ён злачынства, каб дагадзіць жонцы. Адрэзаны кавалак транспарцёрнай стужкі камбайна мужчына прыладзіў замест палавіка на ганку магазіна, дзе працуе яго жонка. Злачынец сам здаўся міліцыі.

**Марына СЛІЖ.**

### «Міс Талент-2003»

МАЛАДЗЕЧНА. 15 красавіка прайшло свята "Міс Талент-2003".

10 школьніц удзельнічалі ў дзвюх узроставых групах. Пасля пяці конкурсаў: "Візітка", дэманстрацыя вобраза, акцёрскага майстэрства, спеваў і танца журы вызначыла пераможцаў. У старэйшай групе (13-14 гадоў) лаўрэатам стала Наташа Юрчык, сярод малодшых пераможца Насця Бажко. Арганізавалі конкурс цэнтр пазашкольнай работы і сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў.

**Настасся НАРЭЙКА.**

### Першы турнір

АСТРАВЕЦ. 12 студзеня ў Рымдзюнах прайшоў першы міжнародны баскетбольны турнір.

Удзельнічалі прадстаўнікі літоўскіх суполак. Тры каманды прадстаўлялі Беларусь, а чацвёртую склалі выхадцы з Гервяцкай суполкі, што жывуць у Вільні. Перамагла ў турніры мінская каманда.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



# Мастак моцны краем сваім

**ВІЛЕЙКА. Сёлетнім летам споўніцца 55 гадоў вядомаму беларускаму графіку і жывапісцу Барысу Цітовічу. Каля трох дзесяцігоддзяў жыве ён у вёсцы Заброддзе, што на Вілейшчыне. Плённа працуе ў выяўленчым мастацтве, а яшчэ з'яўляецца стваральнікам музея першай сусветнай вайны. Мастак выяўляе сябе чалавекам, які абудзіў, разварушыў людзей, прымусіў вяскоўцаў агледзецца наўкола.**

Летась у Заброддзе да ўдзелу ў пленэры "Абоз-1" наведаліся маладыя нямецкія мастакі. Падзея засталася ў нашай краіне амаль незаўважанай. І дарэмна, бо немцы выразна сваімі наватарскімі праектамі акрэслілі грамадзянскую ацэнку тым падзеям, якія вяршылі ў Беларусі калісьці прашчуры.

...Чаму зараз нагадваю пра чарвеньскае 55-годдзе мастака і рупліца на ніве асветніцкай працы? Справа ў тым, што і ў Вілейскім, і ў Мядзельскім раёнах (ініцыятывы Барыса Цітовіча выводзяць за межы аднаго Вілейскага раёна) маглі б зрабіць выключнае па ролі і значэнні прадстаўленне сучаснай творчасці Барыса Цітовіча. Хіба Вілейцы, вілейчанам не патрэбная яго выстава?.. Вядомы найбольш як кніжны графік (ілюстрацыі да літаратурных твораў Івана Мележа, Івана Навуменкі, Янкі Брыля, Івана Шамякіна), творца з'яўляецца аўтарам многіх серый графічных лістоў. А зараз напружана працуе ў галіне іканапісу.

Маючы побач такога мастака, вілейчане маглі б зрабіць яго персанальную выстаўку падзеяй, здольнай, магчыма, акрэсліць сучасную вілейскую мастацкую прастору. Ёсць жа ў Мар'інай Горцы мастацкая галерэя. Створаны ж у Старых Дарогах прыватны мастацкі музей. Чым горшая Вілейка?! Тым больш, што і горад нашмат больш, чым згаданыя паселішчы. Тым больш, што ў Вілейцы шмат робіцца па эстэтычным выхаванні дзяцей, школьнікаў.

Імя, аўтарытэт Барыса Цітовіча змаглі б прыцягнуць да выстаўкі ці іншага творчага праекта з яго ўдзелам мінскіх майстроў жывапісу. Ездзяць жа адлюстроўваць у сваіх працах вілейскія краявіды нават мастакі Расіі...

Барыс Цітовіч усім характарам свайго жыцця ў Заброддзі служыць вілейскаму краю, яго гістарычнай памяці і, канешне ж, духоўнай перспектыве Вілейшчыны. Гэта дзякуючы мастаку тонкімі, але трывалымі ніточкамі паяднаўся з Заброддзем, вілейскім краем Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Георгій Паплаўскі і шмат хто яшчэ з пісьменнікаў, творцаў, грамадскіх дзеячаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**Мастак Барыс Цітовіч з Вілейшчыны напаўняе паняцце «патрыятычнае выхаванне» глыбокім зместам. У час мінулагодняга прыёму ў кадэты ён расказваў юнакам аб ахвярах першай сусветнай вайны.** Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

### Новы пробашч у касцёле

У Вілейскім Крыжаўзвіжанскім касцёле з'явіўся новы пробашч – 27-гадовы айцец Аляксандр з Глыбокага.



2-я старонка

### Астраўчане градкі адстаялі

Праваабаронца Іван Крук дапамог жыхарам Астраўца яшчэ на сезон апрацоўваць градкі ля вёскі Бялькішкі.

3-я старонка

### Даследчык беларускай эміграцыі

Лідзія Савік, якая даследуе дзейнасць беларускіх эмігрантаў, падарыла Маладзечанскай гарадской бібліятэцы свае кнігі.



5-я старонка

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Астраўчане градкі адстаялі

**АСТРАВЕЦ. Скаргі астраўчан прывялі да прыпынення дзеяння спрэчнага, на іх погляд, рашэння райвыканкома.**

У канцы лютага райвыканком вырашыў перадаць кавалак зямлі на мяжы з вёскай Бялькішкі, дзе знаходзяцца агароды астраўчан, ва ўладанне Астравецкаму лясгасу. На гэтай тэрыторыі стварыць дэндрапарк, у якім будуць расці рэдкія віды дрэў і кустоў. Жадаючым мець свой агарод прапанавалі ўчасткі на былым аэрадроме.

Незадаволены гэтым рашэннем астраўчане звярнуліся за дапамогай да мясцовага праваабаронцы Івана Крука. Яны разам накіравалі ліст на адрас прэм'ер-міністра Беларусі, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі, старшыні Гродзенскага аблвыканкома. Просяць праверыць, ці па прызначэнні выкарыстоўваюцца грошы, выдзеленыя на добраўпарадкаванне Астраўца, адмяніць згаданае рашэнне райвыканкома і вызваліць старшыню райвыканкома **Адама Кавальку** ад займаемай пасады. Ліст падпісала 65 астраўчан.



**Праваабаронца Іван Крук дапамог астраўчанам адстаяць градкі ля вёскі Бялькішкі, якія райвыканком збіраўся знесці.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Уладальнікі градак ля Бялькішак не маюць прысядзібнага ўчастка, як тыя, хто жыве ў прыватным сектары, бо жывуць у шматпавярхоўках. Гэтую зямлю астраўчане апрацоўваюць каля дзесятка год, і за гэты час, па іх словах, атрымліваюць здавальняючы ўраджай. Зямля на былым аэрадроме непрыдатная для апрацоўкі – гэта пацвердзілі скаржнікі ў размове з карэспандэнтам "РГ".

У канцы сакавіка рашэнне аб уладкаванні дэндрапарку прыпынілі. Але толькі да восені, калі зямлю перададуць лясгасу.

Спрэчкі выклікае рашэнне ўладаў пабудаваць дарогу ў аб'езд мікраёна па вуліцы Валадарскага. Гады тры таму экскаватары раскапалі зямлю і знішчылі частку агародаў як ля прыватных дамоў, так і шматпавярховак. Будоўля дарогі перапынілася, бо не хапае грошай.

Загадчык аддзела тэрытарыяльнай планіроўкі, горадабудаўніцтва і архітэктуры райвыканкома **Уладзімір Красцьянчык** гаворыць, што такая дарога Астраўцу патрэбная, бо яна разгрузіць ад машын цэнтральную частку пасёлка ды скароціць шлях тым, хто хоча трапіць у мікраён па Валадарскага.

Участкі, якія былі за домам №48 па вуліцы Валадарскага, пайшлі пад коўш. Сёлета гэта будзе і з участкамі для дома №49. Агароднікам прапанавалі ісці на аэрадром.

### Каментарый

Мэты райвыканкома па зносе ўчасткаў ля Бялькішак зразумелыя – гэтыя градкі знаходзяцца на самым уездзе ў пасёлак з боку Смаргоні. Ад уладальнікаў участкаў ля Бялькішак ішлі раней скаргі ў райвыканком на неўрадлівасць зямлі і на злодзеяў. Таму градкі адтуль убіраць варта. Іншая справа, што ўчасткі агароднікам трэба выдзеліць добраўпарадкаваныя.

Заслугоўвае ўвагі досвед Маладзечанскага райвыканкома па добраўпарадкаванні агародаў. Участкі, якія прымыкаюць да цэнтральных вуліц, зносяць у першую чаргу. Да іншых агародаў ставяцца па-рознаму. Калі іх участак добраўпарадкаваны, то яго пакінуць, а калі засмечаны – то знясуць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 10.04 руб. | 17.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2006,00 | 2012,00 |
| Еўра | 2158,46 | 2181,71 |
| Злоты | 502,35 | 509,69 |
| Літ | 625,12 | 631,77 |
| Расійскі рубель | 64,12 | 64,50 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1990/2005 | 2000/2018 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 9.04 | 16.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11900 | 11900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4090 | 4090 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 950 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1650 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 620 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 950 | 900 |
| Капуста, 1 кг | 960 | 1000 |
| Морква, 1 кг | 1300 | 900 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1750 | 1800 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3800 | 3600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1100 |

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Цалкам адмоўныя навіны

**Тыдзень выдаўся надзвычай багатым на адмоўныя навіны.**

### Рубель дзешавее

На фінансавых рынках долар пераадолеў 2-тысячны рубеж, каціроўкі дайшлі да ўзроўню 2005-2010 рублёў за долар. Губляецца аптымізм ад чакаемага далейшага падзення рубля, зніжэння стаўкі рэфінансавання і, як вынік, даходнасці на рынку зберажэнняў. Цэны, насупраць, растуць – ужо абмяркоўваецца павышэнне кошту праезду ў гарадскім транспарце да 330 рублёў з цяперашніх 200, бо сабекошт паездкі складае 450 рублёў. За маленькую трохпакаёвую кватэрку прыходзіцца плаціць больш за 60 тысяч рублёў, што некаторым проста не па кішэні. Не прыбаўляе ўпэўненасці ў заўтрашнім дні і аб'яўленая на днях праграма продажу чатырох гігантаў нафтахіміі, бо змена ўласніка мала што прынясе калектыву і грамадзянам. Грошы ад рэалізацыі пакетаў акцый у краіну могуць наогул і не паступіць, а пайсці за даўгі за энерганосьбіты. Ці, што таксама ўжо магчыма, наогул асесці ў кішэнях расійскіх ці заходніх алігархаў. Тым больш, што ўсім прадпрыемствам вельмі неабходныя інвестыцыі для рэканструкцыі і мадэрнізацыі вытворчасці.

Акрамя блізкага заканчэння іракскай кампаніі, увесь свет у паніцы перад вірусам атыповай пнеўманіі, якім заражаны ўжо тысячы чалавек у Паўднёва-Усходняй Азіі. Турыстычныя і авіяцыйныя кампаніі ў сувязі з гэтым цярпяць страты, бо пасажыры здаюць пуцёўкі, авіякампаніі адмяняюць рэйсы.

### Долары на вываз

З паўтары да трох тысяч долараў ЗША дазволены вываз замежнай наяўнай валюты без усемагчымых абмежаванняў за межы Беларусі.Аднак гэта наўрад ці каму так моцна дапаможа: у каго ёсць, што вывозіць, будуць і паперкі на легальны вываз валюты. Прыкладна такую суму прыйдзецца выкласці ў наступным годзе для паездкі на Алімпійскія гульні ў Афінах. Ужо вызначаны расцэнкі на білеты: паглядзець адкрыццё гульняў можна будзе за 200 еўра, фінальныя спаборніцтвы баскетбалістаў і валейбалістаў абыйдуцца мінімум у 75 еўра, закрыццё алімпіяды – мінімум у 50 еўра. Бясплатна можна будзе ўбачыць велагонкі ўздоўж трасы, а таксама спаборніцтвы па марафонскім бегу і спартыўнай хадзьбе. Расійскія турыстычныя фірмы ўжо пачынаюць рэалізацыю пакетаў пуцёвак на гульні з наведваннем некаторых спаборніцтваў. Сярэдняя цана пуцёўкі 2,5-3 тысячы еўра для нас будзе не па кішэні. Спроба ў мінулым годзе адпраўляць з Мінска чартэрны авіярэйс на 5-дзённы адпачынак у Грэцыю па 700 еўра закончыўся няўдачай – не было прададзена і палавіны білетаў.

### Культура і спорт

Аднак мы не толькі не хочам ці не можам дорага адпачываць, мы і не ходзім на канцэрты. З-за дарагоўлі цэн на білеты ўжо сарвана некалькі канцэртаў папулярных выканаўцаў з Расіі ў нядаўна адкрытым Маладзечанскім Палацы культуры. Акрамя высокіх цэн на месцы ў зале — 15-35 тысяч рублёў, — гледачоў адпуджвае і звычайнае для папзорак гучанне "фанеры".

Але калі мы не ходзім па культурных установах (акрамя аншлагаў на выступленні ансамбля "Чысты голас"), то, можа, адправімся на стадыён – сёння пачынаецца чарговы чэмпіянат Беларусі па футболу. Фінансавая нявызначанасць, хутчэй нават фінансавы крах клубнага спорту, з'яўляецца адлюстраваннем падзення айчыннай эканомікі. Адсутнасць салідных спонсараў і рэальных гаспадароў пры слабай гульні – вось прычыны заняпаду футбола. У сувязі з гэтым толькі з сумам можна чытаць апублікаваныя дадзеныя па фінансавых паказчыках самага багатага спартыўнага клуба ў свеце "Манчэсцер Юнайтэд". Капіталізацыя клуба, г.зн., кошт акцый на рынку, хоць і ўступае расійскім некаторым алігархам, але даўно пераўзышоў 1 мільярд долараў, даходы за год складаюць каля 300 мільёнаў, прыбытак – каля 100 мільёнаў долараў. І пры гэтым цана білетаў на дамашнія матчы на ўзроўні 35-70 долараў, а майкі пад сёмым нумарам з подпісам "Бекхэм" разыходзяцца па 70 долараў. Эмблема і марка "Манчэсцер Юнайтэд" даўно сталі салідным брэндам, пакупка летам гульца Фердынанда абышлася клубу ў фантастычную суму – 47 мільёнаў долараў. У нас пакуль гэтага няма, а шкада.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## ДАІ патрабуюцца сведкі

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 красавіка ў 17.40 па Вялікім Гасцінцы насупраць магазіна "Віленскі шлях" аўтамабіль "Форд-Сіера" чорнага колеру, дзяржнумар 63-85 ОАО, наехаў на пажылога мужчыну.**

Сведкам здарэння, а таксама вадзіцелям аўтамабіля ВАЗ-2109" з надпісам "Дарожная служба", які спыніўся на месцы ДТЗ, маршрутнага аўтобуса "Ікарус", аўтамабіля "Форд-універсал" цёмна-зялёнага колеру, які ехаў уперадзе аўтамабіля "Форд-Сіера", просьба патэлефанаваць у ДАІ па тэлефоне 5-44-44, 6-16-16.

Па гэтых жа нумарах у Маладзечне просяць патэлефанаваць сведкаў яшчэ аднаго здарэння, якое адбылося 7 красавіка. У 15 гадзін на 4-м кіламетры дарогі Радашкавічы-Загорцы-Карпавічы побач з вёскай Удранка жанчына ў выніку ДТЗ атрымала цялесныя пашкоджанні.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



## Вакансія – карэспандэнт

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" праводзіць конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады карэспандэнта.**
Патрабаванні: уменне ўбачыць факт, працаваць са словам, камунікабельнасць, адказнасць, валоданне персанальным камп'ютэрам або жаданне яго асваення, імкненне удасканальваць свой творчы патэнцыял, вышэйшая адукацыя.
**Рэзюмэ з суправаджальным пісьмом дасылаць на паштовы або электронны адрасы газеты ці факсам да 30 красавіка.** Пры неабходнасці далейшых кантактаў рэдакцыя скантактуецца з патэнцыйнымі кандыдатамі.
222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а. Факс: 01773–69667, 53841.
Электронны адрас: regionnews@promedia.by

■ СУСТРЭЧЫ

# Дыялог бізнесменаў з уладай

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 красавіка гарадскія прадпрымальнікі мелі магчымасць задаць пытанне і атрымаць адказ ад любой дзяржаўнай службы.**

У малой зале Палацы культуры сабраліся разам прадпрымальнікі, кіраўнікі аддзелаў гарвыканкома, падатковай інспекцыі, міліцыі і яе падраздзяленняў, цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, цэнтра стандартызацыі і метралогіі. Сустрэчу арганізавалі па ініцыятыве прадпрымальнікаў.

Спачатку выступіла прадпрымальнік **Кацярына Астапоўская**, якая прадстаўляла іх агульны пункт гледжання. Яна сказала, што дэкрэт №4, які нядаўна ўвайшоў у сілу, ставіць на мяжу банкруцтва большасць індывідуальных прадпрымальнікаў. Частка наёмных работнікаў з 1 мая страціць работу, бо прадпрымальнікам без рэгістрацыі прадпрыемства дазваляецца мець не больш чым 3 наёмныя работнікі. Астатнім пагражае звальненне. Яшчэ К. Астапоўская наракала на вялікія штрафы, якія даюць прадпрымальнікам розныя кантралюючыя службы. Завяршыла сваё выступленне прадпрымальніца патрабаваннем адмяніць дэкрэт №4 і замяніць дэкрэты і падзаконныя акты Законам аб прадпрымальніцкай дзейнасці.

Прадпрымальнік **Міхаіл Гаркавы** дадаў, што сярэднія выдаткі на ўтрыманне гандлёвага кіёска цяпер складаюць 530-790 тысяч рублёў штомесяц. Гэта робіць стратнай дзейнасць большасці кіёскаў. М. Гаркавы нагадаў пра дапамогу прадпрымальнікаў у добраўпарадкаванні горада, дапамогу пры фінансаванні будаўніцтва і рамонту сацыяльна значных аб'ектаў, футбольнага клуба "Маладзечна-2000". І напрыканцы прагучаў тэзіс аб немагчымасці прадстаўнікоў малога бізнесу вытрымаць націск дзяржаўнай фіскальнай сістэмы, і што рашэнні райвыканкома павінныя ўлічваць інтарэсы прадпрымальнікаў.



**Гэты маладзечанскі кіёск закрыты па тэхнічных прычынах. Але маладзечанскія прадпрымальнікі прадказваюць закрыццё многіх кіёскаў. Бо сума падаткаў, якую ўладальнікі кіёскаў павінныя плаціць у сувязі са з'яўленнем дэкрэта №4, робіць, на іх думку, стратнай дзейнасць бізнесменаў.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Што патрабуюць прадпрымальнікі:

**1. Прыпыніць замену гандлёвых кіёскаў да таго часу, пакуль прадпрымальнікі не дасягнуць стабільнага эканамічнага фінансавага становішча.**

**2. Стаўку зямельнага падатку за месца пад кіёскам прывясці ў адпаведнасць з артыкулам 46 Закона аб зямлі, а не ўводзіць гарвыканкомам у аднабаковым парадку.**

**3. Спыніць за кошт прадпрымальнікаў работы па замене якаснага асфальту ў горадзе на няякасную плітку.**

**4. Прадпрымальнікі адмаўляюцца ўдзельнічаць у добраўпарадкаванні гарадскіх школ і бальніц, бо падаткаў, якія ўзраслі з ўвядзеннем прэзідэнцкага дэкрэту №4, і штрафаў ад кантралюючых органаў павінна хапаць на добраўпарадкаванне горада.**

**5. Забяспечыць дастойны ўзровень жыцця.**

**6. Забяспечыць рабочыя месцы прадпрымальнікам і іх наёмным работнікам, якія пазбавяцца месца работы з-за страт, якія прыносіць дэкрэт №4.**

**7. Хто адказвае і па якім прынцыпе ўводзіцца павышаны каэфіцыент 1,25 на адзіны падатак за актыўнасць месца.**

## Адказы

### Пра замену кіёскаў

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**, які вёў сустрэчу, адказаў, што старыя кіёскі мяняцца будуць. Асабліва ля цэнтральных гарадскіх вуліц. Там яны павінныя мець сучасны выгляд. Гэта патрабаванне гарвыканкома пры адкрыцці дазволу на ўстаноўку павільёна ў цэнтры горада. Прадпрымальнікі пра гэта ведаюць, бо кожнаму паведамляюць яшчэ да атрымання дазволу, каб не было недарэчнасцяў. Калі прадпрымальнік не згодны мяняць свой кіёск, то ўрэшце ніхто не прымушае яго займаць месца ля цэнтральных вуліц. Няхай пераносіць свой кіёск на вуліцу Маладзёжную ці Новы Свет. Жыхары гэтых вуліц ўзрадуюцца з'яўленню там новага гандлёвага пункта.

### Пра зямельны падатак

На гэтае пытанне адказала загадчыца фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч**. Яна сказала, што згодна з артыкулам 10 Закона аб бюджэце, зямельны падатак не з'яўляецца мясцовым падаткам і не ўваходзіць у адзіны прадпрымальніцкі падатак. Стаўкі зямельнага падатку ўстанаўлівае не гарвыканком, а Савет Міністраў.

### Пра асфальт і плітку

Яфім Ідэльчык сказаў, што якаснага асфальту ў горадзе няма. Яго мянялі і будуць мяняць на плітку. А прэтэнзіі на якасць пліткі не прымаюцца. Яе купляюць самі прадпрымальнікі, і ён раіць ім самім сачыць за якасцю пліткі, каб не траціцца больш на рамонт і замену плітачнага пакрыцця. На жаль, маладзечанскія вытворцы, як сказаў Я. Ідэльчык, узорам па якасці пліткі служыць не могуць.

Яшчэ прадпрымальнікі атрымліваюць дапамогу ад гарвыканкома. Бо, па правілах, прадпрымальнікі павінныя пры ўладкаванні сваіх пунктаў падаць спецыяльны план. Гарвыканком гэтага не патрабуе, бо замарудзіўся б і падаражаў для прадпрымальнікаў працэс добраўпарадкавання.

Як сказаў Я. Ідэльчык, сёлета планы па добраўпарадкаванні горада яшчэ больш аб'ёмныя, чым раней. Сёлета – юбілейны год з пачатку фестывальнага руху нацыянальнай песні і паэзіі ў Маладзечне. Да таго, гэты год аб'яўлены годам навядзення парадку на зямлі. І без дапамогі прадпрымальнікаў гарвыканкому не абысціся.

### Пра рамонт і будоўлю

Яфім Ідэльчык ўсміхнуўся:

– Штрафаў і падаткаў усё роўна не хапае. На жаль, большасць сацыяльна значных гарадскіх аб'ектаў пабудаваная 20-30 гадоў таму, там не было капітальнага рамонту, да таго ж за гэты час памяняліся санітарныя нормы і правілы. А мы абавязаны прывесці памяшканні ў адпаведнасці з новымі нормамі, таму аб'ём рамонтных работ толькі ўзрасце. За апошнія гады з дапамогай прадпрымальнікаў мы адрамантавалі некалькі медыцынскіх аддзяленняў. У гэтым нам дапамагае Мінскі аблвыканком.

Існуе дамоўленасць, што горад рыхтуе памяшканні, а вобласць завозіць новае абсталяванне. Гэта вельмі выгадна гораду. За 2 месяцы мы адрамантавалі траўматалагічнае аддзяленне ў цэнтральнай гарадской бальніцы, гасцінічны комплекс на гарадскім стадыёне. Рамонт самога аддзялення зроблены за бюджэтныя сродкі. Яшчэ ў траўматалогіі ў кожнай палаце ёсць тэлевізар і халадзільнік. Іх мы купілі за кошт спонсараў. І будзем далей прыцягваць спонсарскія грошы. Прымушаць нам дапамагаць нікога не будзем, але папрасіць спонсарскіх грошай можам. Гэта нашае права.

### Пра дастойныя ўмовы жыцця

Яфім Ідэльчык сказаў, што цалкам падпісваецца пад гэтым патрабаваннем. Мэта работы гарвыканкома і заключаецца ў тым, каб гараджане атрымалі дастойны ўзровень жыцця.

### Пра беспрацоўе

Яфім Ідэльчык прызнаў, што пытанне сур'ёзнае і актуальнае. За апошні год бачна тэндэнцыя да павелічэння колькасці беспрацоўных. Іх больш за 2,1 тысячы (каля 3% працаздольнага насельніцтва). У горадзе існуе упор на стварэнне прадпрыемства з жаночай занятасцю. Хутка павінныя з'явіцца 200 новых рабочых месцаў на "Сатэры", новыя прадпрыемствы, магазіны і міні-рынкі. Яшчэ цэнтр занятасці крэдытуе беспрацоўных, якія пажадаюць займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю. Беспрацэнтны крэдыт на стварэнне працоўных месцаў дае фонд сацыяльнай абароны. Як сказаў Яфім Ідэльчык, з 75 мільёнаў рублёў, які гатовы выдзеліць фонд, ёсць заяўкі толькі на 30 мільёнаў.

Калі прадпрымальнікі будуць звальняць сваіх наёмных работнікаў, гэта створыць праблемы, бо ўсе адначасова не змогуць знайсці новую работу.

### Пра падатковыя стаўкі

Паліна Вашкевіч патлумачыла, што павышаны "каэфіцыент актыўнасці" на адзіны падатак для маладзечанскіх прадпрымальнікаў ўстанавіў Мінскі аблсавет дэпутатаў.

Прадпрымальнікі заклікалі яе дапамагчы знізіць гэты каэфіцыент, бо ён большы, чым у абласных гарадах. Агульны падатак павялічваецца ў 1,25 раза для ўладальнікаў кіёскаў, што стаяць у больш людным месцы.

Каб знізіць падатковую нагрузку, гарвыканком напісаў пісьмо ў Мінскі абласны Савет дэпутатаў з просьбай знізіць каэфіцыент да 1,15, але прымяніць гэты каэфіцыент для гандляроў на рэчавым і калгасным рынках.

Гэта выклікала незадавальненне з боку прадпрымальнікаў у зале. Пасыпаліся папрокі ў адрас гарвыканкома, што рашэнні аб увядзенні каэфіцыентаў прымаюцца без абмеркавання з прадпрымальнікамі. Гандляры рэчавага рынку гаварылі, што ніхто не рабіў хранаметраж наведванняў палатак на рынку з панядзелка па пятніцу. Ды і ў выхадныя дні пакупнікоў стала менш: прычынай таму вялікія цэны і нізкія зарплаты. На гэта Яфім Ідэльчык адказаў, што гарвыканком гатовы адазваць свой ліст і просіць прадпрымальнікаў падаць пісьмовыя прапановы па гэтым пытанні. Таксама ён папрасіў начальніка Маладзечанскай падатковай інспекцыі **Міхаіла Еўдакімава** зрабіць хранаметраж на рэчавым рынку. Магчыма, тут павышаючы каэфіцыент на падатак рабіць увогуле не трэба, ці толькі ў найбольш людным месцы. Яшчэ ў склад рабочай групы райвыканкома, якая распрацоўвае пытанні, звязаныя з прадпрымальніцкай дзейнасцю, Яфім Ідэльчык прапанаваў уключыць 5 прадпрымальнікаў.

### Рознае

Падчас сустрэчы прадпрымальнікі папрасілі забяспечыць розныя ўмовы работы з замежнымі грамадзянамі. Яфім Ідэльчык адказаў, што, хоць замежныя грамадзяне і плацяць менш падаткаў у параўнанні з айчыннымі, гарвыканком не забывае пра іх, калі шукае спонсараў.

Таксама прадпрымальнікі скардзіліся на вялікія штрафы з боку цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Яфім Ідэльчык сказаў, што Маладзечна будзе самым чыстым горадам у краіне. І штрафаваць за адсутнасць сметніц і за гразь будуць жорстка. Таксама жорстка будуць караць гараджанаў за парушэнне правілаў утрымання дамашніх жывёл. Сабакі, напрыклад, павінныя быць зарэгістраваныя і выгульвацца ў намордніках.

Начальнік Маладзечанскага ГРАУС **Віктар Марозаў** расказаў, што ў горадзе з'явіцца рота ўнутраных войск з Мінска. Затраты горада на яе – выдзеліць памяшканне. Затое павялічыцца колькасць патрулёў у горадзе ў 2 разы, што прывядзе да большага парадку на вуліцах.

Прадпрымальнікі скардзіліся на тое, што ў адсутнасці двух-трох работнікаў гарвыканкома ніхто не можа разгледзець іх пытанне. Яфім Ідэльчык прызнаў пытанне слушным і сказаў, што дысцыпліна ў выканкоме стане лепшай. Работнікі аддзелаў выканкома павінныя быць узаемазамяняльныя.

Задавалі прадпрымальнікі пытанні наконт незаконнага гандлю перад уваходам на калгасны рынак. Віктар Марозаў паведаміў, што работнікі міліцыі ўзялі гэтае пытанне на кантроль. І, каго магчыма будзе адтуль убраць, іх убяруць. Адразу вырашыцца пытанне наконт чысціні тэрыторыі каля рынку.

Напрыканцы прадпрымальнік і праваабаронца **Эдвард Баланчук** параіў гарвыканкому звярнуцца да прэзідэнта з прапановай адмяніць дэкрэт №4. Асабліва, калі кіраўніцтва гарвыканкома ўпэўнена, што ўвядзенне гэтага дэкрэта нанясе шкоду прадпрымальнікам. Гэта і будзе ўклад выканаўчай улады ў развіццё прадпрымальніцкай дзейнасці ў Маладзечне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СУСТРЭЧЫ

# Даследчык беларускай эміграцыі

**Пра беларускіх пісьменнікаў далёкага замежжа Ніл Гілевіч пісаў, што "ўсе яны заклеймаваныя як беларускія буржуазныя нацыяналісты", таму на Беларусі "ніхто з пісьменнікаў-эмігрантаў ніводным радком і нават па імені ажно да пачатку 90-х гадоў не быў вядомы".**

Сведчаннем слоў Ніла Сымонавіча стала шчырая размова, што вялася ў рамках семінара бібліятэчных работнікаў, чарговыя заняткі якога днямі правяла Маладзечанская цэнтральная гарадская бібліятэка. Кожнае слова стараліся ўлавіць слухачы з лекцыі выкладчыцы Беларускага універсітэта культуры Лідзіі Савік аб развіцці беларускай літаратуры далёкага замежжа.



Выкладчыца Беларускага універсітэта культуры, даследчык дзейнасці беларускіх эмігрантаў Лідзія Савік. Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Космас беларуса

Лідзію Сымонаўну чытачы ведаюць перш за ўсё па кнізе "Космас беларуса", выдадзенай у Мінску спачатку ў 1992 годзе, а потым, другое выданне, – у 1996 годзе. "Космас беларуса" з'яўляецца грунтоўным даследаваннем жыцця і дзейнасці нашага славутага земляка з сусветным імем Барыса Кіта.

Хто ён, Барыс Уладзіміравіч Кіт, пра якога да пачатку так званай "перабудовы" мы амаль нічога не ведалі? Пра яго Вітаўт Кіпель, які жыве ў ЗША, пісаў: "Беларусы ва ўсім свеце могуць ганарыцца дасягненнямі прафесара Барыса Кіта, колішняга выкладчыка матэматыкі Віленскай беларускай гімназіі, аднаго з вядучых амерыканскіх даследчыкаў у ракетным паліве..." (з кнігі "Беларусы ў ЗША").

Зусім іншы лёс чакаў Барыса Уладзіміравіча на бацькаўшчыне: ён жа быў адным з арганізатараў, а пасля адкрыцця – дырэктарам Маладзечанскай гандлёвай школы, што дзейнічала падчас нямецка-фашысцкай акупацыі. Жаданне ж было адно – даць юнакам і дзяўчатам прафесійныя веды, а заадно выратаваць іх ад вывазу ў Нямеччыну. Каб застаўся Б.Кіт пасля вызвалення Беларусі на Радзіме – яго, верагодней за ўсё, напаткала б кара савецкіх органаў бяспекі, як гэта было зроблена з выкладчыкамі Вілейскай беларускай настаўніцкай семінарыі Лявонам і Ганнай Марцыёнкамі, Васілём Юдо, яе дырэктарам Мікалаем Грышкевічам, некаторымі семінарыстамі. І для іх пачаліся пякельныя лагерныя дарогі.

Барыс Кіт, пакінуўшы на пачатку ліпеня 1944 года Радзіму, не здрадзіў беларускаму народу. Жыўшы на Захадзе, ён стаў вучоным, вядомым ва ўсім свеце. Магчыма, праславіў бы сваё імя і М.Грышкевіч, каб ён не паверыў гуманнасці сталіністаў і разам з такімі, як Б.Кіт, эміграваў на Захад. Сёння ж Б.Кіт (дарэчы, сёлета яму споўнілася 93 гады, і жыве ён у Германіі) – таленавіты матэматык, фізік, доктар філасофскіх навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўропы, старэйшы сябра Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, ганаровы сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварystваў, заслужаны прафесар Вашынгтонскага Мэрылендскага універсітэта, залаты медаліст Нямецкага навуковага таварыства імя Германа Обэрта, ганаровы прафесар Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы, ганаровы грамадзянін г. Навагрудка. Вось кім стаў Барыс Кіт, выратаваўшы сваё жыццё ад "абдымкаў" КДБ!

Не па чутках ведалі пра рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў у савецкі перыяд тыя паэты і празаікі, якія у адзін час з Б.Кітом пакінулі бацькаўшчыну. Іншага выйсця яны не бачылі, бо таксама хваляваліся за свой лёс. Нават настаўнік з Мікалаеўшчыны, родны брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, не разлічваў на літасць ад савецкіх уладаў – ён жа працаваў за нямецкім часам! Наўрад ці змог бы за яго заступіцца народны пясняр Беларусі. Чаму здзіўляцца, калі самі Янка Купала і Якуб Колас цудам выратаваліся ад рэпрэсій.

### Літаратары-эмігранты

А вось за мяжой Міхась Міцкевіч, які друкаваўся пад псеўданімам А.Галіна, В.Адважны (Я.Германовіч), К.Акула, Ю.Віцьбіч, У.Глыбінны (У.Сядура), А.Змагар (А.Яцэвіч), А.Жменя (а.Леў Гарошка), Л.Крывічанін, Я.Пятроўскі, А.Саковіч (Іна Рытар), У.Случанскі, М.Цэлеш, Я.Юхнавец, С.Ясень (Я.Запруднік), займаючыся ў асноўным прозай, публіцыстыкай, крытыкай, мемуарыстыкай, сталі добра вядомымі ў беларускім замежжы. Лідзія Савік займаецца даследаваннем іх творчасці і абяцае выдаць пра іх асобны твор. А пакуль што яна ў дар бібліятэкі побач з кнігай "Космас беларуса" прывезла кнігу "Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа". У ёй аўтар прааналізавала здабыткі беларускай паэзіі ў далёкім замежжы. Сюды трапіў аналіз творчасці Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Дудзіцкага, Хведара Ільяшэвіча, Янкі Золака, Міхася Кавыля, Уладзіміра Клішэвіча, Рыгора Крушыны, Алеся Салаўя ды Масея Сяднёва.

Лідзія Сымонаўна зазначыла на семінары, што "ў Беларусі творы пісьменнікаў-эмігрантаў чытаюць і будуць чытаць з цікавасцю, хаця і не з аднaзначным успрыманнем". Яна спаслалася на словы Максіма Лужаніна, выказаныя ім у 2-м нумары часопіса "Нёман" за 1993 год.

"Да нядаўняга часу ў нас рабілі выгляд, што такіх беларускіх пісьменнікаў не існуе, або, прыняўшы выкрывальную позу, заяўлялі, што публікацыя іх твораў нікому не патрэбна і, акрамя шкоды, нічога даць не можа.

Аспрэчваць такога кшталту меркаванні няма патрэбы: усім даўно зразумела, што менавіта прымусовае адчужэнне скарбаў літаратуры прынесціць ёй незаменны страту... Ганіцелі адыходзяць, а творы вяртаюцца і застаюцца".

### Рэпрэсіраваныя

Знайшоўся час у лектара-прапагандыста беларускай літаратуры, каб закрануць і тэму галоўнага лёсу рэпрэсіраваных беларускіх літаратараў напярэдадні другой сусветнай вайны. Некаторыя з іх пасля рэабілітацыі жывымі вярнуліся з лагераў смерці і змаглі расказаць праўду аб іх невыносным жыцці за калючым дротам. Сярод іх Уладзімір Дубоўка, Янка Скрыган, Сяргей Грахоўскі, Алесь Звонак, Станіслаў Шушкевіч і некаторыя іншыя. Але дзесяткі невінаватых беларускіх пісьменнікаў альбо адразу былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання – расстрэлу, альбо памерлі ў ГУЛАГах.

Л.Савік падарыла бібліятэцы і "Юбілейны альбом да 90-годдзя Барыса Уладзіміравіча Кіта", і яго ўспаміны, выдадзеныя ў дзвюх кніжках накладам усяго ў некалькі асобнікаў.

Жадаючыя гэтага ж аўтара маглі набыць кніжку "Адна між замкаў", якая толькі што ўбачыла свет. У ёй Лідзія Савік дае літаратурны партрэт вядомай паэткі і празаіка (пiша на гістарычныя тэмы) Вольгі Іпатавай. Адзін асобнік падораны бібліятэцы. Як зазначыла ў гутарцы з карэспандэнтам загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Тамара Краснік, той, хто жадае набыць гэтую кніжку ва ўласнае карыстанне, можа звярнуцца ў бібліятэку.

На гэтым жа семінары літаратурны кансультант, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Ірына Качаткова выступіла з лекцыяй "Славянскія карані ў творчасці беларускіх пісьменнікаў".

**Барыс МАНЦЭВІЧ.**

■ ПАМЯЦЬ

# Вогнішча ў яўрэйскім квартале

Станцыя Уша – добра вядомы ўсім прыпынак у Красным. Яшчэ нейкія паўгадзіны і, калі вы едзіце, зразумела, з Мінска, вас сустрэне Маладзечна. Але ж давайце спынімся ў Красным. Багатая гісторыя ў гэтага, здаецца, ці не ўсяму свету вядомага мястэчка. Але мы зазірнём на адну толькі старонку... Спярша – цытата з энцыклапедычнага выдання: "Магіла ахвяр фашызму – вёска Краснае, вуліца Набярэжная, паміж дамамі 16 і 18. Пахаваны 2 тысячы мірных жыхароў яўрэйскай нацыянальнасці, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 15.03.1943 года. У 1963 годзе на магіле пастаўлены абеліск". Аўтары выдадзенай у 1995 годзе энцыклапедыі маглі і не ведаць, што сціплы цэментавы абеліск, усталяваны ў 1963 годзе, ужо замянілі на гранітны помнік. І першы, і другі раз адзнакі памяці ўсталяваны радавымі людзьмі, якія нешта ведаюць, нешта памятаюць пра трагедыю. Сучасны помнік пастаўлены фактычна сярод агародаў людскіх, поруч з напаўразбуранымі хлявамі...

Расказвае адзін са сведкаў

**«Магіла ахвяр фашызму – вёска Краснае, вуліца Набярэжная, паміж дамамі 16 і 18. Пахаваны 2 тысячы мірных жыхароў яўрэйскай нацыянальнасці, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 15.03.1943 года. У 1963 годзе на магіле пастаўлены абеліск».**

расстрэлу яўрэяў і іх спальвання (удакладняем энцыклапедычную даведку: у магілу складвалі ўжо упоперак) – Расціслаў Юльянавіч Кісель:

— Раён, дзе арганізавалі ў самым пачатку вайны гета, складаўся з яўрэйскіх дамоў, лавак. Атрымалася, што жыхарoў як быццам бы ўшчыльнілі. Людзей, што былі ў гета, ганялі на працу – на чыгуначную станцыю, на лесапільню, у лес, які акружаў мястэчка з усіх бакоў.

Ноччу, у пярэдадзень расстрэлу у гета, – некаторы перапалох. Адны з дамоў пахаваліся ў склепы. Нехта паспрабаваў уцякаць... На раніцу яўрэяў пастроілі ў шарэнгі каля гумна, у якім звычайна маладзілі снапы. Кулямётчыкі заселі ў некалькіх кропках. Перад гэтым кананада немцаў прайшла па хатах. Зазіралі ва ўсе куты, адчынялі хлявы, залазілі ў склепы. Многія салдаты былі п'яныя. "Я сядзеў ля акна, з якога былі бачныя і горка, дзе стаяў ток, і яўрэі, якія збіліся ў кучу... Страшна, жудасна было чуць крыкі, жудасным здаваўся і трэск кулямётных чэргаў. Раптам удалечыні паказалася фігура ці то салдата, ці то афіцэра. Ён павярнуўся ў бок нашай хаты, паднёс да вачэй бінокль. І падняў пісталет. Я нават не паспеў адхінуцца ад акна. Добра, што куля патрапіла ў сцяну, а не ў шкло...".

Не менш жахлівай была і наступная ноч, і яшчэ, ды, дзень-два. Некалькі яўрэяў немцы адразу не расстралялі, склаўшы з іх рабочую каманду. Мясцічкоўцы бачылі са сваіх агародаў, як доктар Гіршоўскі, а з ім яшчэ адзін яўрэй зносілі расстраляных у гумно, укладвалі іх штабелямі. У доктара Гіршоўскага былі расстраляны жонка, дачка. Відаць, і іх ён, чакаючы і сваю блізкую смерць, занёс у гумно. Затым гумно, якое на плошчы было, канешне ж, нашмат больш некалькіх квадратных метраў, адведзены сёння на помнік і агароджу, падпалілі. Дым, смурод стаялі ў ваколіцы некалькі дзён... Людзі зачынялі пячныя юшкі, каб дым праз коміны не трапляў у хаты.

А нехта і вечарам, і ноччу імкнуўся патрапіць у яўрэйскі квартал. Шукалі золата, дарагія рэчы, падбіралі кінутую вязнямі вопратку. Было ў добрасуседстве і такое. Дарэчы, пра пошукі золата... Ужо – пра іншае мястэчка. Яшчэ і пасля вайны адзін яго жыхар гадамі па начах перакопваў суседскі яўрэйскі агарод: усё спадзяваўся знайсці прыхаванае.

З таго страшнага красненскага пекла выжыў, дзякуючы цуду і добрай беларускай сям'і, яўрэйскі хлопчык Сямён Грынгауз. Хавалі яго разам з маці Макоўскія. У санях і вывезлі з мястэчка. Дапамаглі патрапіць у партызанскі атрад, у лагер да партызанаў у Ілью... Пасля вайны Сямён Грынгауз закончыў два інстытуты. У Ільі і настаўнічаў. Пасля паехаў у Ізраіль. Праз некалькі гадоў у Краснае прыйшло паведамленне, што іх зямляк стаў маёрам ізраільскай арміі і забіты ў вайне з арабамі. Пакуль Сямёна Грынгауза ўспаміналі і як земляка, і як ізраільскага маёра, ён вазьмі ды зноў аб'явіўся ў Красным. Літаральна некалькі гадоў назад Грынгауз прыехаў да месца трагедыі са студэнтамі, якіх ён розуму навучаў у далёкім ад Беларусі Ізраілі. Прывёз з сабой і вядомага кінематаграфіста Спілберга. Пра трагедыю ў Красным знялі фільм. Вось толькі тэрыторыю расстрэла і спальвання давесці да ладу не ўдалося. Па-ранейшаму па праху ходзяць, топчуца нагамі. Сцяжынка з дома якраз па магіле праходзіць (попел людскі пасля расстрэлу быў схаваны якраз у зямлі), вядзе да клодзежа, да згаданых хлявоў. Словам, жывуць людзі сваім жыццём. Памятаюць ці не яны штонебудзь з таго блізкага мінулага?.. Ці ведаюць яны пра вайну нешта, што, здавалася, і зараз усіх павінна хваляваць?... І што ім расказвае чорны гранітны помнік?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Сціплая спадчына беларускага

**Амаль кожная еўрапейская краіна мае хоць бы адзін традыцыйны нацыянальны гатунак сыру. Хто не чуў пра англійскія чэдар ды стылтан, галандскія эдам і гаўда, французскія ракфор ды камамбер, італьянскія пармезан ды гарганзолу ?**

Наяўнасць традыцыйнага нацыянальнага сыру, дый не аднаго, – быццам пропуск у прывілеяваны клуб еўрапейскіх нацый. А што мы? Ці можам пахваліцца нацыянальнымі сырнымі традыцыямі?

На жаль, наш сыр не мае якога-кольвечы ўцямнага іміджу, аблічча не толькі ў свеце, але, што яшчэ больш крыўдна, ў нас саміх. Нават прафесіяналы сёння прызнаюць, што амаль усе гатункі цвёрдых сыроў беларускай вытворчасці немагчыма адрозніць адзін ад аднаго. Як заўжды, вінаватыя нібыта «аб'ектыўныя прычыны»: найперш, праблемы з малаком, якога ў пэўныя сезоны банальна не стае, не кажучы ўжо пра стабільнасць паказчыкаў якасці, уніфікаваныя тэхналогіі, адны і тыя ж ферменты (амаль усе – з Маскоўскага завода сычужных ферментаў– якая тут можа быць «сырная незалежнасць»!), матэрыялы пакрыцця і г.д. Невялікія варыяцыі ва ўтрыманні вільгаці і тлушчу ў сухім рэчыве, рысунак і форма – ну і тэрміны даспявання, якія за апошнія гады няўхільна зніжаюцца – вось і ўсе адрозненні, няўлоўныя для сярэдняга спажыўца. Нават калі ён і імкнецца быць больш разборлівым, вытворцы не ідуць яму насустрач.

## А як у Літве?

Мала хто з беларусаў (спецыялісты-сыравары, магчыма, менш за ўсіх) задумваецца аб традыцыях нашага сыру, аб культываванні яго менавіта нацыянальнай адметнасці. Нашыя паўночныя суседзі, літоўцы, дасягнулі тут нашмат большых поспехаў. Яшчэ ў савецкія часы мала хто з турыстаў-менчукоў або камандзіраваных у Вільню вяртаўся адтуль без якога-небудзь з тамтэйшых сыроў – з кменам, вэнджанага ці яшчэ якой-небудзь прывабнай рысай, на якую асцярожныя беларуска-савецкія сыравары не маглі рашыцца. І сёння літоўскія сыры – адзін з прадметаў нацыянальнай гордасці ўжо незалежнай дзяржавы. На пачатку незалежнасці Літвы руска-савецкія эканамісты прадракалі, што літоўскія малочныя прадукты нікому не будуць патрэбныя на сусветным рынку. Але за 10 год упартага змагання, перажыўшы надзвычай цяжкія часы, літоўскі сыр дамогся гучнага міжнароднага прызнання. Цяпер амаль палова яго вывозіцца на экспарт. Як, зрэшты, і нашага. Але мы прадаём танны прадукт на рынак фактычна толькі адной замежнай краіны, а літоўцы – дарагі (параўнальна з уласным рынкам) і па ўсім свеце. У адны толькі Злучаныя Штаты летась было пастаўлена амаль 14 тыс. тон (прыкладна столькі мы экспартуем у Расію), што забяспечыла літоўскаму сыру 4-е месца на амерыканскім рынку – вышэй, чым у такіх традыцыйна «сырных» краін, як Галандыя, Данія ды Швейцарыя. Нават з Эстоніі, колішняга савецкага лідэра па вытворчасці і спажыванню сыру, літоўскі прадукт упэўнена выцясняе мясцовы, займаючы больш за траціну тамтэйшага рынку — калі не пад сваім сапраўдным «сцягам», дык у выглядзе падробкі пад эстонскі, што пагражае банкрутцтвам многім эстонскім вытворцам.

## Прычыны поспеху

Гэта — паказчык паспяховасці не толькі літоўскай эканомікі, але і літоўскай культуры. Прыкмета яе яўнай якаснай перавагі над нашай, арганічнай інтэграванасці ў культуру заходнееўрапейскую – вынік шматвекавых паслядоўных высілкаў нацыі над сваёй адукацыяй, над нацыянальнай псіхалогіяй, якія гэтак кантрастуюць з нашай «агульнай млявасцю і абыякавасцю да жыцця». Але літоўскія традыцыі сыраробства, калі ўгледзецца пільна ў гісторыю, заснаваныя не толькі на ўласна літоўскай этнічнай спадчыне, але на традыцыях, агульных для ўсёй колішняй Рэчы Паспалітай, а больш позніх «пласты» – на традыцыях, якія склаліся ўжо пасля падзелаў, у XIX ст., на беларуска-літоўскім памежжы, на ўсёй той тэрыторыі, якая была шчыльна звязаная з Вільняй і да нядаўняга часу ўся насіла гістарычную назву *Літва*. 100 год таму немагчыма было правесці выразную мяжу паміж «літоўскай» і «заходнебеларускай» традыцыямі сыраробства. Рачэй пад «літоўскай» трэба было разумець менавіта «заходнебеларускую». Іншая справа, што літоўцы з таго часу пайшлі па шляху ўдасканалення гэтых традыцый, падкрэслення нацыянальных асаблівасцей, селекцыі унікальнага, арыгінальнага, высакароднага, у той час як мы — па шляху спрашчэння, прафанацыі, саветызацыі, абыякавасці і халтуры. Зрэшты, хіба гэта тычыцца толькі нашага сыру?

## Беларускія традыцыі

Доўгія стагоддзі ў нас быў вядомы толькі самы просты, тварожны, або клінковы сыр. Як успамінаў славуты беларускі гісторык і этнограф М. Улашчык:

*– Віцкаўскія сяляне ведалі толькі адзін від сыру – тварожны. Яго выраблялі з сыраквашы, з якой здымалі смятану. Зрэшты, калі гаспадыня хацела атрымаць сыр лепшай якасці, смятану пакідалі. Сыраквашу адтоплівалі ў цёплай рускай печы, а затым, калі яна астывала, злівалі ў клінок – пашытую ў форме кліна палатняную торбу. Спачатку сыроватку адціскалі рукамі, а затым торбу на пэўны час падвешвалі. Калі сыроватка з клінка больш не капала, яго яшчэ раз ціснулі рукамі, а затым клалі пад прытуг – паміж дзвюх адмысловых дошак, на верхняй з якіх ляжаў камень. Прыкладна праз суткі сыр быў гатовы. Яго густа салілі і елі свежым або правяленым у нейкім халаднаватым месцы.*

**Незадоўга да скасавання прыгону і выбуху паўстання 1863 года Эмілія і Марыя Брахоцкія з Гарадзеі рашыліся на нечуваны дагэтуль у Літве і Беларусі эксперымент — наладзіць масавую, у камерцыйных маштабах, вытворчасць “галандскіх” сыроў.**



**Галандскі сыр – гэта не проста нацыянальны прадукт. Ён – адна з самых аўтарытэтных візітных картак гэтага народа. Сыр – гэта традыцыі, свята, гонар. Беларускі сыр таксама яшчэ можа заняць сваё месца ў еўрапейскай культуры. Ва ўсякім разе традыцыі ў нас ёсць.**

Фота з архіва "РГ".

Ва ўсіх савецкіх даведніках па гастраноміі пісалася, што радзімай клінковага сыру з'яўляецца Беларусь. Але па вялікім рахунку традыцыі сыраробства з тварагу – агульныя для беларусаў, палякаў і літоўцаў. Проста нам, так бы мовіць, выдзялілі, як таму малодшаму брату, самую простую тэхналогію. Дарэчы, літоўцы звычайны клінковы сыр называюць *Lietuviљkas sыris*. Традыцыйным дадаткам да такога сыру – і ў нас, і ў літоўцаў, і ў палякаў – з'яўляецца кмен (радзей мак). Калі такі сыр хацелі захаваць надоўга, яго высушвалі да такой крамянасці, што яго немагчыма было раскусіць ці нарэзаць скрылямі. Таму яго крэмзалі на як мага драбнейшыя кавалкі і ссалі як цукеркі ці цёрлі і ўжывалі як дадатак да розных страў.

Але ў сярэдзіне XIX стагоддзя і да нас, прычым менавіта з Галандыі, пранікла еўрапейская традыцыя ферментавага, ці сычужнага сыраробства. Сычужны сыр атрымліваюць не з прасаванага тварагу, а з малака, якое згортваецца пад уздзеяннем ферменту хімазіну, які атрымліваецца з сычужнай часткі страўніка маладых цялятаў. Піянерамі новай, дагэтуль невядомай вытворчасці стала шляхта Навагрудскага павету. Незадоўга да скасавання прыгону і выбуху паўстання 1863 года Эмілія і Марыя Брахоцкія з Гарадзеі рашыліся на нечуваны дагэтуль у Літве і Беларусі эксперымент — наладзіць масавую, у камерцыйных маштабах, вытворчасць “галандскіх” сыроў.

## Сырныя магнаты

Каля 1859 г. невядомы сыравар, запрошаны Брахоцкімі з Галандыі, прынес у наднёманскі край тэхніку вырабу сыроў кшталту традыцыйнага галандскага сыру *эдамер* (гал. *Edammer Kaas*). Новы гатунак сыру пачаткова так і называўся: “брахоцкі”. Вельмі хутка вядомасць сыру *a la Brochocki* перасягнула не толькі ваколіцы Гарадзеі, але і межы гістарычнай Літвы, так што яго пачалі называць *літоўскім*. Імклівай кар'еры новага сыру, яго вялікаму камерцыйнаму поспеху паспрыяла выгаднае геаграфічнае становішча Гарадзеі, размешчанай ля скрыжавання шашэйнай дарогі Наваградак—Нясвіж—Слуцк і чыгункі Масква—Варшава, якая пралегла праз гэтыя мясціны ў 1871 годзе. Пакуль у сярэдзіне 1880-х не з'явіўся чыгуначны вузел Баранавічы, Гарадзея адыгрывала ролю найбольш важнага транспартнага вузла гэтага краю. Але і на пачатку XX стагоддзя роля Гарадзеі як найбуйнейшага цэнтру гандлю сельскагаспадарчай прадукцыяй Менскай губерні захоўвалася. У 1893 г. аднаго хлеба тут штогод адгружалася па чыгунцы больш за 800,000 пудоў. Многія буйныя гуртовыя фірмы Расейскай імперыі, што гандлявалі харчовымі таварамі, мелі ў Гарадзеі свае канторы. Неўзабаве ў Варшаве і Вільні, у Санкт-Пецярбурзе і Маскве, у Кіеве і Адэсе ўсталявалася мода на *літоўскія* сыры з Гарадзеі і ваколіцаў – досыць падобныя на *эдамер*, але таннейшыя – мода, якая пратрымалася некалькі дзесяцігоддзяў.

**«Брахоцкія» ці *літоўскія* сыры былі шарападобнымі, вагой ад 2 да 4 кг, даспявалі досыць доўга — да 4 месяцаў – і выраблялся як з цвёрдай скарынкай (такія сыры зверху парафінаваліся), так і з адмыслова падцвілай (гэтыя пакрываліся станіёлем — тонкай алавянай фальгой, бо алюмініевай у тыя часы не было).**

«Брахоцкія» ці *літоўскія* сыры былі шарападобнымі, вагой ад 2 да 4 кг, даспявалі досыць доўга — да 4 месяцаў – і выраблялся як з цвёрдай скарынкай (такія сыры зверху парафінаваліся), так і з адмыслова падцвілай (гэтыя пакрываліся станіёлем — тонкай алавянай фальгой, бо алюмініевай у тыя часы не было). Выраб іх ніколі не быў «народным промыслам» — сыраварства на еўрапейскі кшталт было занадта складаным тэхналагічна не толькі для парэформавага селяніна, але і для старасвецкага шляхціча. Новыя сыры выраблялся толькі прафесійнымі (ці паўпрафесійнымі) сыраварамі і прызначаліся выключна на збыт. Называючы іх *літоўскімі*, пакупнікі ў далёкіх сталіцах або не ведалі, што яны паходзяць з Заходняй Беларусі, або не бачылі розніцы паміж ёю і этнічнай Літвой – у часы пачатку *літоўскага* сыраробства назва *Беларусь* яшчэ не распаўсюдзілася так далёка на захад.

## Асяродкі сыраварства

Менавіта Наваградскі (а пазней і Менскі) паветы Менскай губерні былі першымі асяродкамі новага сыраварства. У Віленскую і Ковенскую губерню (а значыцца, і ў этнічную Літву) сычужны літоўскі сыр прыйшоў менавіта з поўдня, з Беларусі. Папулярнасць *літоўскага* сыру зафіксаваў у сваім допісе ў санктпецярбургскі тыднёвік “Край” у 1888 г. Францішак Багушэвіч: *Сёлетняя «Прамыслова-сельскагаспадарчая выстава» знаёміць з 270 экспанатамі, з якіх... малочных прадуктаў 8 (пераважна сыр, так званы літоўскі, які 29 гадоў таму пачала выраблячь у Гарадзеі Брахоцкая).*

Мусіць, ёсць нейкая гістарычная заканамернасць і логіка ў тым, што менавіта Навагрудчына – край Рэйтана і Касцюшкі, Міцкевіча і Сыракомлі – першай у даўняй гістарычнай *Літве* ўкараніла ў сябе новую для нашага краю тэхналогію ? У міжваеннай Заходняй Беларусі асноўнымі гатункамі ферментаванага сыру былі *літоўскія* і *навагрудскія*. Пад апошнімі меўся мясцовы аналаг швейцарскага сыру *Emmental*, які ў Беларусі ўкараніўся дзякуючы найперш славутай малачарні графаў Храптовічаў у Муравацы каля Шчорсаў. У сярэдзіне

 



# сыраробства

1930-х *літоўскія* каштавалі ад 1.50 (гурт) да 2.40 (раздроб) зл., а *навагрудскія* ад 1.80 да 2.40 зл. (Для параўнання: у Навагрудскім павеце ў 1934 г. быў усталяваны мінімальны месячны заробак 50 злотых).

Як сведчыць адзін даваенны польскі мемуарыст, «*сыр «Літоўскі» – мяккі, вільготны, востры – ў сваім класе ўпэўнена біў гумовы, моташны, ніякі галандскі сыр. Маляўнічы пятнічны кірмаш галандскіх сыроў у Алкмары насычаў зрок. Польскі ж сыр «Літоўскі» насычаў смак.* Падсумоўваючы гісторыю *літоўскага* сыру, у 1930-х гадах польскі тэхнолаг Ян Лічнерскі, дырэктар узорнай Малачарскай школы ў Жэшуве, галоўнай у міжваеннай Рэчы Паспалітай, пісаў: "*На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў літоўскае, а дакладней, беларускае сыраварства развілася досыць значна і пачаткова нават здабыла сабе добрую славу*". На жаль, традыцыйныя заходнебеларускія сыры не перажылі прыйсця другіх Саветаў...

У міжваеннай Заходняй Беларусі сыраварства было прыкметнай дэталлю эканамічнага ландшафту. "Рэгіянальная" ўжо пісала калісьці пра сыраварства ў дзяржаўнай эканоміі у Любані Вілейскага раёна. Янка Брыль у "Золку, ўбачаным здалёк" згадвае: "*...у іншы бок, на захад, куды ад нас ніколі не ездзілі, можна было паехаць ці павабранцам у войска, ці — «за палітыку» — у турму, а калі ўжо на заработкі, дык у маёнтак за сыравара або за парабка...*". Продкі многіх эмігрантаў з Заходняй Беларусі былі сыраварамі. Сваю сыраварню, напрыклад, трымала маці вядомай грамадскай дзячкі беларускай дыяспары ў ЗША Ірэны Калады-Смірновай з Падкасоўя Навагрудскага раёна. Бацькі выдатнага польскага гісторыка Аляксандра Гейштара, былога прэзідэнта Польскай акадэміі навук, варылі сыр у Пласковічах за Клецкам. Продкі Марата Клакоцкага, рэдактара амерыканскай газеты "Беларус", таксама мелі невялікую сыраварню ля Ваўкавыска.

## Сучаснасць

Сучаснае беларускае сыраварства, асабліва ў правінцыі, перажывае не лепшыя часы. Расійскія вытворцы, прыцягнуўшы вялікія інвестыцыі і рацыяналізаваўшы вытворчасць і збытавую палітыку, выцясняюць беларусаў не толькі з расійскага, але і з нашага рынку. Сыравары нашага рэгіёну (з Маладзечна, Валожына) скардзяцца на дарагія энергарэсурсы, дрэнную і дарагую сыравіну, канкурэнцыю расійскіх прадуктаў. Але на поўначы беларускай часткі былой Віленскай губерні – здаецца не так проста.

ААТ «Пастаўскі малочны завод» у канцы мінулага года другі раз запар стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу «Лепшая прадукцыя года», хаця 10 гадоў таму быў на мяжы ліквідацыі. Пакуль тут вырабляюць толькі паўцвёрдыя сыры («Сулугуні», «Славянскі»), цэх па выпуску цвёрдых сыроў толькі будуецца. Своеасаблівай візітнай карткай завода лічыцца сыр «Раніца», распрацаваны менавіта на Пастаўскім малочным заводзе. Яго нідзе больш не вырабляюць, а прадаюць больш у беларускай сталіцы. Прыемна, што афіцыйны сайт завода – беларускамоўны (http://postavy.euro.ru/dairy.html), як і надпісы на этыкетках.

Кінуўшы дарэмныя спадзяванні на паляпшэнне “закупачных цэнаў”, шмат якія калгасы поўначы былой Віленшчыны пачынаюць ствараць свае міні-заводы па вытворчасці сыру. У Пастаўскім раёне – гэта калгас імя Суворава (Навасёлкі), які, дарэчы, праславіўся на ўсю Беларусь сваёй страусінай фермай, а ў Глыбоцкім – “Новы шлях” (Запруддзе), які вырабляе ў асноўным традыцыйныя балгарскія сыры. Вэнджаны балгарскі сыр «Джыл» нядаўна прызнаны лепшай закускай да піва ў 2002 годзе ў Расіі. Сыр «Сетаўскі» (названы ў гонар прыгожага мясцовага Сетаўскага возера) ахвотна закупляюць супермаркеты Масквы. Магчыма, ёсць нейкая аўра ў гэтых месцах, што захавалася недзе ў прадоннях глыбокіх азёраў. 200 год таму граф-дзівак з Паставаў Канстанцін Тызенгаўз (1786—1853), арнітолаг, мастак-аматар і ледзь не мясцовы шаман, быў таксама і слынным на ўсю Літву і Беларусь сыраварам, як згадвае ягоная пляменніца Габрыэля з Гюнтэраў Пузыніна: "*Ён быў бацькам, панам і лекарам дамовым, а ягоныя спосабы супраць рожы і каўтуна былі слынныя на ўсе ваколіцы, адно, што захоўваў іх у таямніцы, як нейкі знахар. Падобна ж чыніў і са спосабам вырабу адмысловых сыроў, фабрыку якіх меў у адным са сваіх фальваркаў*".

Але як шкада, што наш сыр мала што памятае пра сваё мінулае ! Няўжо ніхто не захоча ўваскрасіць *літоўскі* (а можа, лепш – гарадзейскі ?) і *навагрудскі*, за якімі больш за стагоддзе гісторыі ? Ці больш сціплыя, вядомыя калісьці толькі ў сваім рэгіёне, але не менш смачныя і годныя ? Забытыя *літоўскія* і *навагрудскія* сыры –не проста эпізод эканамічнай гісторыі, але цэлы страчаны пласт нашай культуры. Але, можа, нехта памятае штосьці пра забытыя масавай свядомасцю традыцыі нашага сыраробства ? Накшталт гэтага, таксама з Брыля, з "Ніжніх Байдуноў": "*Дзядзька Алісей у маладосці, да салдатчыны, працаваў у маёнтку пані Ядковай сыраварам. Праўда, сыры аднойчы былі не ўдаліся, і, каб зацерці сляды, рагатун Рыўка з яшчэ адным такім майстрам, не з нашай вёскі, узʼехалі з цяжкім возам на стары склеп, і ён праваліўся*".

Ці памятае нехта тэхналагічныя ці эканамічныя падрабязнасці ці проста нейкія фацэтныя эпізоды, звязаныя з сырам ? Яшчэ на пачатку 1970-х былі жывыя людзі, якія варылі ўнікальныя сыры. Рыгор Семашкевіч, таленавіты, але трагічнага лёсу беларускі пісьменнік, апісаў у сваёй аповесці "Бацька ў калаўроце" сустрэчу з адным такім вясковым сыраварам, а да таго ж і паэтам, і філосафам, Мацеям Бубнам, які на хутары Юзэфова пад Вілейкай з казінага малака варыў сыр, "не горшы, чым галандскі ці швейцарскі". Але з тае пары прайшло ўжо 30 гадоў...

Адгукніцеся, хто ведае нешта пра мінулае нашага сыру! Любая дробязь можа аказацца істотнай дэталлю мазаікі, якую яшчэ магчыма сабраць.

**Алесь БЕЛЫ.**

■ **ПРАФЕСІЯ**

# Вытворца «караля страў»

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 гадоў аддала справе вырабу сыроў майстар-сырароб Маладзечанскага гармалзавода Валянціна Змітровіч.**

Яна ведала яшчэ ў дзяцінстве, што сыр – гэта “кароль страў”, і вельмі карысны, асабліва падлеткам і тым, хто пакутуе на хваробы сэрца. Бо маці Валянціны, як і любая вясковая жанчына на Случчыне, рабіла свойскі сыр. І яго якасці ведала ўся сям'я.

Тое, што ў Слуцку было вядомае на ўсю Беларусь вучылішча, якое рыхтавала спецыялістаў для малочнай вытворчасці, і яно было недалёка ад роднага дома, вызначыла будучую спецыяльнасць Валянціны. Затым яна скончыла Пінскі мяса-малочны тэхнікум. Калі трэба было праходзіць практыку, Маладзечна для Валі было толькі месцам на карце. Прыехала сюды па накіраванні, тут і засталася. Пасля завяла сям'ю. Так Маладзечна для Валянціны стала другой радзімай.



Майстар-сырароб Маладзечанскага гармалзавода Валянціна Змітровіч.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

За чвэрць века ў нашай краіне змянілася амаль усё. Але толькі не тэхналогія вырабу сыру. Ён як раней выспявае ад 30 да 60 дзён, так і цяпер. Як была вялікая доля ручной працы пры апрацоўцы сыроў, так і цяпер.

За мінулы год Маладзечанскі гармалзавод вырабіў 382 тоны сыру. Асноўны спажывец – Масква і Санкт-Пецярбург. Вялікая доля экспарту тлумачыцца тым, што аб'ёмы вырабу нашмат перавышаюць патрэбы маладзечанцаў. А свой тавар сыраробам трэба рэалізоўваць. Хаця вываз маладзечанскага сыру ў расійскія мегаполісы – таксама традыцыя, якая ідзе з савецкіх часоў.

Прафесія сыраробa, па сведчанні прафесіянала, не такая лёгкая. Дачка Валянціны, напрыклад, вырашыла не ісці па дарозе маці, а скончыла гандлёва-эканамічны каледж.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **СМАЧНА ЕСЦІ**

# Рэцэпты прыгатавання сыроў

**У XIX стагоддзі шляхетка Ганна Цюндзявіцкая выдала кніжку “Літоўская гаспадыня”.**

Аўтарка збірала народныя рэцэпты і карысныя парады для хатніх гаспадынь, у тым ліку, з нашага рэгіёну. Выдане 5 разоў у XIX стагоддзі перавыдавалася па-польску пасля смерці аўтаркі і ў 1993 годзе “Літоўская гаспадыня” ўбачыла свет на беларускай мове. Прапануем некалькі рэцэптаў з гэтага выдання:

## Сухія сыры, што лёгка рэжуцца

Малако, злёгку адтопленае, трохі студзяць, працэджваюць праз мяшок. Калі сыроватка сцячэ, тварог вымешваюць, як звычайна, з соллю. Потым робяць сыры, трымаюць два дні ў мяшках пад прэсам, а пасля раскладваюць на паліцы і адразу накрываюць густым палатном, каб не праходзіла паветра. У пакоі, дзе яны ляжаць, нельга адчыняць вокны і паліць печ. Штодзённа перарочваюць сыры на іншы бок, пакуль на іх не з'явіцца грыбы цвілі, а пах не зробіцца моцным і непрыемным, што будзе не раней, чым праз двa-тры тыдні. Тады здымаюць палатно, няхай цвіль трохі зачарсцвее, а затым мыюць сыры ў добра нагрэтай сыроватцы (каб цяжка было трымаць руку), два ці тры разы змяняючы яе, пакуль сыры не стануць чыстымі. Пасля зноў раскладваюць іх у тым жа самым пакоі на сухіх і чыстых паліцах, але ўжо не накрываюць палатном і ўпускаюць трохі вольнага паветра. Два разы ў дзень абавязкова перарочваюць. Правяленыя гэткім чынам сыры захоўваюць у сухім жыцы. За гадзіну перад ужываннем абмываюць у двух ці трох гарачых водах і даюць ім трохі прасохнуць.

Калі сыры абмываюць у сыроватцы падчас прыгатавання і ў вадзе перад ужываннем, ніколі нельга саскрабаць цвіль нажом ці пальцам, лепш злёгку абціраць далонню. Такія сыры атрымліваюцца сухія, але ў сярэдзіне мякаватыя, і іх можна цяпер рэзаць, як галандскія. Прыгатаваныя інакш залішне перасыхаюць, становяцца крохкімі і не рэжуцца.

## Простыя мясцовыя сыры

Калі смятану збяруць, малако ў гаршках яшчэ трымаюць у цёплым пакоі, пакуль ад яго не пачне аддзяляцца сыроватка – яна выступіць зверху. Тады ставяць у сярэдне цёплую печ, напрыклад адразу пасля таго, як з яе дасталі хлеб, каб малако нагрэлася і ператварылася ў сыракваншу. Калі ж таніць яго ў вельмі гарачай печы, дык сыр атрымаецца рыхлы, крохкі і нясмачны.

Павольна аттапіўшы тварог, яго вымаюць з печы і пакідаюць у гаршках, пакуль цалкам не астыне, што робіцца дзеля таго, каб разагрэтыя камячкі пры зліванні не сплывалі разам з сыроваткай. Як зусім ахаладае, зліваюць адразу з усіх гаршкоў у адзін мяшок. Пачакаўшы, пакуль сцячэ сыроватка, змяшчаюць яго на кухонную дошку, накладзеную нахільна, трохі прыціскаюць зверху іншай дошкай і спачатку злёгку, а потым моцна каменем. Праз некалькі гадзін, калі ўся сыроватка сыдзе ў падстаўленую пасудзіну, тварог дастаюць, злёгку падсольваюць, засцерагаючыся моцна церці. Тады раскладваюць яго ў клінкі і зноў на колькі гадзін прыціскаюць дошкай з каменем.

Хто любіць рыхлыя сыры, няхай тварог ніколькі не соліць, не перамешвае, а адразу кладзе ў клінкі. Пасля, вынаўшы яго, зверху варта пасаліць ці закруціць у палатно і замачыць у моцна пасоленай вадзе на 24 гадзіны. Так належыць паўтарыць некалькі разоў.

Тым ці іншым спосабам прыгатаваныя сыры сушаць улетку на вольным паветры ў цяні, а зімой – у цёплым пакоі, але далёка ад печы, на саломе. Сушаныя ж на сонцы ці паблізу ад печы, яны трэскаюцца і крышацца. Як толькі з'явіцца цвіль, сыры абскрабаюць і абмываюць вадой. Каб зберагчы іх ад мух, трэба сушыць у кошыках, праз якія праходзіць паветра, ці прынамсі накрываць густой сеткай, інакш насякомыя ў сырах могуць адкласці яйкі. Сыры абавязкова часта перарочваць, а высушаныя варта проста палажыць у гаршкі або аддзяліць саломай. Можна таксама посуд з сырамі, добра ўпакаваны, закопваць глыбока ў аўсяную салому. Некаторыя трымаюць іх у сухім жыце пасля абмалоту, але там яны залішне перасыхаюць. Наогул неабходна захоўваць сыры ў месцы не надта сухім і не надта вільготным. У першым выпадку яны робяцца празмерна тлустымі і сухімі, у другім – лёгка гніюць. Калі пакрыюцца цвіллю, можна адмыць іх сыроваткай, моцна пасаліць, а потым добра высушыць на паветры, пераварочваючы на абодва бакі.

 

■ ТУРЫЗМ

# Падарожжа ў Крым

**МАЛАДЗЕЧНА. Падчас вясновых канікулаў маладзечанскія школьнікі зрабілі паход па Крымскім паўвостраве.**

Туды накіраваліся 12 дзесяцікласнікаў СШ №7, якія займаюцца ў турыстычным гуртку "Эдэльвейс". Паходам кіравала кіраўнік гуртка **Ірына Шаварнёва**. Расказвае:

– Маршрут выбралі не выпадкова. Для пешага паходу наша краіна – месца не вельмі цікавае: адна раўніна, няма рэзкіх перападаў ландшафту: гор, пячор. Крымскі паўвостраў нашмат цікавейшы. Да таго ж, у мяне ёсць вопыт удзелу ў паходах на Крым. Я ведала, што школьнікам там будзе цікава. Па Крыме мы прайшлі каля 140 кіламетраў. Туды і назад дабраліся цягніком "Мінск-Сімферопаль".

Школьнікі сустрэліся з цяжкасцямі: вада, гразь, снег. Пабачылі мора, вадаспад і горы. Надвор'е было не вельмі прыдатнае для паходу: вясна аказалася халоднай не толькі ў нас, але і на поўдні. Мясцовыя жыхары гаварылі, што даўно ў іх такога холаду не было: бульбу звычайна ў сакавіку садзілі, а сёлета ў гэты час тэмпература ў горадзе была каля нуля градусаў. Як паднімешся крыху вышэй у горы, стабільна мінусавая. Ірына Шавярнёва расказвала, што пры падрыхтоўцы да паходу, якая пачалася з Новага года, разлічвалі на цяплейшае надвор'е. Але школьнікі аказаліся падрыхтаванымі і да такіх сюрпрызаў. Хадзілі ў аднадзённыя паходы, бегалі кросы, рэгулярна трэніраваліся.

Па дарозе юныя турысты знаёміліся са славутасцямі Крыма: крэпасцю Чамбала, якая пабудаваная генуэзцамі, царква Уваскрэсення, якая пабудаваная каля самага абрыву ў гарах, вадаспад Сярэбраны, руіны мураваных гарадоў Манчуп-Кале і Эскі-Кермен. Пазнаёміліся з Севастопалем і яго мясцінамі: руінамі старажытнага горада Херсанес, які пабудаваны больш за 2,5 тысячы гадоў назад, наведалі музей марскога флоту, пабывалі каля помніка ў гонар патануўшых караблёў падчас другой сусветнай вайны.

Школьнікі дзякуюць за дапамогу ў арганізацыі паходу дырэктару СШ №7 **Вользе Малярэвіч** і дырэктару турклуба "Пілігрым" **Сяргею Бялкову**.



Члены гуртка "Эдэльвейс", якія ўдзельнічалі ў паходзе ў Крым: Яўген Савіцкі, Аляксей Малько, Сяргей Карпук, Ірына Шавярнёва, Дзмітрый Карташэвіч, Юлія Вяль, Таццяна Чабай, Яўгенія Цыплакова, Таццяна Салецкая, Дзмітрый Бажко.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Яўген САВІЦКІ, Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

## Моладзь і ідэалогія

**МАЛАДЗЕЧНА. Ці патрэбныя маладзёжныя грамадскія аб'яднанні ў навучальных установах?**

Гэтае пытанне абмяркоўвалася на прэс-цэнтры, арганізаваным гарадскім і раённым выканкомамі.

Старшыня пярвічнай арганізацыі БРСМ у Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы **Аляксей Дзевяцень** лічыць, што моладзь павінная быць аб'яднаная дзяржаўнай ідэалогіяй, якая прапагандуе ідэі патрыятызму і аптымізму. У пярвічнай арганізацыі БРСМ політэхнічнага каледжа 20 чалавек. Аляксей Дзевяцень сказаў, што іх арганізацыя плануе зацікавіць гарадскую моладзь удзелам у шэрагу мерапрыемстваў.

У школах раёна ўзрадзілася піянерская арганізацыя. Дружыны ёсць ва ўсіх школах. Школьнікаў зацікаўліваюць масавай работай. 7-класніца Алёхнавіцкай СШ **Аня Канурэнка** расказала, што ў іх школе традыцыйна вясной піянеры высаджваюць дрэвы. Магчымасць заняць вольны час і маральная заахвочванні, па меркаванні Ані, зрабілі піянерскую арганізацыю у сельскай мясцовасці такой масавай.

Было б добра стварыць масавую маладзёжную арганізацыю. Каб не згубіць моладзь, якая можа пайсці ў дэструктыўныя арганізацыі, – да такой ідэі прыйшлі ўдзельнікі прэс-цэнтра.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ТУРЫЗМ

## Каляндарны план турклуба «Пілігрым»

| № | Назва мерапрыемства | Дата |
|---|---|---|
| 1 | Удзел у рабоце абласной федэрацыі турызму | Па плану ўпраўлення |
| 2 | Удзел у абласных спаборніцтвах па турысцка-прыкладному шматбор'ю (лыжны, пешы, водны, веласіпедны турызм) | Па плану ўпраўлення |
| 3 | Удзел у XIV рэспубліканскім злёце "Цвярозасць. Здароўе. Культура" | 16-18 мая |
| 4 | Удзел у XXII рэспубліканскім пешаходным марафоне "100 км за 24 гадзіны" | 24-25 мая |
| 5 | Удзел у X агітацыйным велапрабегу | 23-30 ліпеня |
| 6 | Сямейныя паходы па Рэспубліцы Беларусь, Расіі, Крыме | Май-кастрычнік |
| 7 | Велапаход па Польшчы III катэгорыі складанасці, заяўлены на першынство Мінскай вобласці | 26 красавіка–11 мая |
| 8 | Гарадскі турыстычны злёт КФК | 13-15 чэрвеня |
| 9 | Удзел у рэспубліканскім веларалі "Белая Русь" | Чэрвень |
| 10 | Водныя паходы па РБ, Карэліі | Май-кастрычнік |
| 11 | Пешы паход IV катэгорыі складанасці па Цэнтральным Каўказе | 1-17 жніўня |
| 12 | Удзел у рэспубліканскім злёце "Тата, мама, я – здаровая сям'я" | 15-17 жніўня |
| 13 | Адкрытыя гарадскія спаборніцтвы па тэхніцы воднага турызму памяці Таццяны Брылевіч | 30-31 жніўня |
| 14 | I гарадскі злёт ветэранаў турызму г.Маладзечна | 6-7 верасня |
| 15 | Гарадскія адкрытыя спаборніцтвы па спартыўным арыентаванні на кубак Героя Савецкага Саюза М.В.Ларына | 21 верасня |
| 16 | Вечар, прысвечаны Міжнароднаму дню турызму | 27 верасня |
| 17 | Гарадскія спаборніцтвы па тэхніцы пешага турызму | Кастрычнік |
| 18 | Правядзенне абласных веларалі "Маладзечанская восень" | 4-5 кастрычніка |
| 19 | Удзел у рэспубліканскім начным марафоне "Вялікая мядзведзіца" | 11-12 кастрычніка |
| 20 | Вечар, прысвечаны дню нараджэння клуба "Пілігрым" | 16 лістапада |
| 21 | Удзел у злёце ветэранаў спартыўнага турызму РБ | Лістапад |

■ МОЛАДЗЬ

# Першы рыцарскі клуб

**МАЛАДЗЕЧНА. На базе грамадскага аб'яднання "Клуб "Белы журавель" адкрыўся першы ў горадзе рыцарскі клуб.**

У "Белым жураўлі" разам з навучаннем моладзі ўсходнім адзінаборствам ўводзяць навучальную праграму "Гістарычнае мадэляраванне". У клубе ўпэўненыя, што вывучэнне гісторыі і традыцый сярэднявечча можа аб'яднаць падлеткаў, дапаможа ім знайсці новых сяброў.

Цяпер падлеткі рамантуюць былое бамбасховішча ля завода "Спадарожнік" для свайго клуба. Расказвае дырэктар клуба **Сяргей Ракіта**:

– Я даўно працую з дзецьмі і пераконваюся, што большасць бацькоў можа прасачыць за сваімі дзецьмі толькі да 4 класа школы. Пасля заканчэння пачатковай школы падлеткі часта не ведаюць, чым заняць свой вольны час. Наш рыцарскі клуб зацікавіць не толькі падлеткаў, але і дарослых. Спачатку наша "рыцарскае бамбасховішча" змесціць каля 20 чалавек, але галоўнае пачаць, а пасля і ў большы будынак пераедзем.

Праграма арганізацыі мерапрыемстваў клуба накіраваная на мастацка-творчае, акцёрска-тэатральнае, фальклорнае выхаванне. Летам у клубе скончым работу па стварэнні інтэр'ера сярэднявечча. Дзеці навучацца шыць адзенне, плесці кальчугі, рабіць макеты драўлянай зброі, працаваць за ганчарным кругам. Члены клуба будуць вывучаць гісторыю роднага горада, вобласці, краіны. Дапамогуць выкладчыкі кафедры гісторыі Беларускага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, якія рыхтуюць матэрыялы па гісторыі рыцарства ў Беларусі.



Члены рыцарскага клуба "Белы журавель" студэнтка Мінскага інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва Жанна Селятыцкая і 11-класніца СШ №12 Віталія Уманец падчас выстаўкі "Рыцарскі касцюм і ўзбраенне. XIII-XVI стагоддзі".
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Дырэктар клуба падкрэсліў, што з прыходам у клуб дзеці мяняюцца: больш сур'ёзна ставяцца да ўрокаў, хатніх абавязкаў, паводзінаў з бацькамі. Але гэты клуб наведваюць не толькі дзеці. Пытаюся ў членаў клуба: "Чаму?"

Малодшы навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея 24-гадовы **Андрэй Шмакоўскі**:

– У клубе ёсць свая ідэалогія, якой няма ў большасці маладзёжных кампаній. Акрамя гэтага ў клубе нічога не робіцца праз сілу. Гэта не клуб ананімных алкаголікаў, а месца для сустрэч, захаплення агульнай справай, самавыхавання без халтуры.

Настаўнік геаграфіі СШ №2, 32-гадовы **Аляксей Багавец**:

– Я паважаю людзей, якія захопленыя агульнай справай. Натуральна, сярэднявечча нельга назваць "залатым векам", але там ёсць сапраўдныя каштоўнасці: патрыятызм, рыцарскі гонар, павага да жанчыны. На аснове гэтых якасцей можна выхоўваць дзяцей. Тут дзіця можа праявіць сябе як асоба, нават калі ў школе ён не лепшы.

Ляснік Маладзечанскага лясніцтва 21-гадовы **Андрэй Сівы**:

– Раней мы з сябрамі хацелі стварыць свой рыцарскі клуб, але ў нас не атрымалася. Потым я даведаўся ад сябра пра "Белы журавель". Я заўсёды больш за ўсё цікавіўся менавіта сярэднявеччам – часам сумленных людзей, непадробных ідэалаў, розуму, і сілы.

Работнік Маладзечанскага Палаца культуры **19-гадовая Юля Кавалёва**:

– Я ў школе не вельмі любіла гісторыю, але цяпер зацікавілася. Выбрала для вывучэння сярэднявечча, бо яно шмат чаму вучыць. Мужчын, напрыклад, – смеласці, дабрыні і сціпласці.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ДА ДНЯ ПЕРАМОГІ

# Абласное шматбор'е

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 каманды з Міншчыны спаборнічалі паміж сабой на адкрыцці месячніка абаронна-патрыятычнай і спартыўнай работы.**

З нашага рэгіёну бліжэй за ўсё да перамогі была маладзечанская каманда.

Ініцыятары месячніка, які прысвечаны Дню Перамогі, — Маладзечанска-Валожынскі міжраённы савет Беларускага абаронна-спартыўнага тэхнічнага таварыства (БелАСТТ) і Мінскі абласны савет БелАСТТ.

У каманду з 4-х чалавек уваходзілі кіраўнікі раённых арганізацый Мінскай вобласці і раёнаў Мінска, раённых арганізацый БелАСТТ, сакратароў БРСМ раёнаў, майстры вытворчага навучання ваджэнню аўтамабіляў і выкладчыкі па правілах дарожнага руху. У стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі ўдзельнічалі ўсе члены каманд. У правілах дарожнага руху – толькі іх выкладчыкі і майстры вытворчага навучання па фігурным ваджэнні аўтамабіля. Гэтыя спаборніцтвы былі самыя складаныя. На іх добра зарэкамендаваў сябе маладзечанец майстар вытворчага навучання ваджэнню Маладзечанска-Валожынскага міжраўсавета **Павел Паслед**, які заняў 3-е месца.

Самыя вялікія дасягненні маладзечанцаў на спаборніцтвах – 3-е месца ў стральбе ў старшыні Маладзечанска-Вілейскага міжраённага таварыства БелАСТТ Ільі Малахава і 1-е месца ў стральбе сярод сакратароў БРСМ **Аляксандра Бобрыка**.



Члены Маладзечанскага клуба "Юны дэсантнік" на адкрыцці месячніка абаронна-патрыятычнай і спартыўнай работы.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

У выніку Маладзечанская каманда заняла 4-е месца. І прапусціла наперад Кастрычніцкі раён Мінска (3-е месца), Мінскую аўтамабільную школу (2-е месца) і Пухавіцкі раённы савет БелАСТТ (1-е месца).

Адначасова праводзіліся спаборніцтвы сярод прызыўнікоў Маладзечна. У каманду з 5-і чалавек увайшлі 9-11-класнікі і навучэнцы. Яны спаборнічалі ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі. Лепш за ўсіх страляў **Уладзімір Мароз** з СШ №12. У кожнага была свая мэта. Напрыклад, **Дзмітрый Пракапеня** з СШ №14 займаецца стральбой, каб праславіць сваю школу. А ў армію ісці не хоча, бо, маркуе, што там цяжка. Самае вялікае яго дасягненне было восенню на чэмпіянаце па спартыўнай эстафеце (1200 м), дзе ён падняўся на 1-ю прыступку.

Выступалі з паказальнымі выступленнямі, а таксама спаборнічалі паміж сабой члены клуба "Юны дэсантнік". Яны не толькі стралялі з пнеўматычнай вінтоўкі, а і мераліся сіламі ў біятлоне і ваенізаваным кросе.

Былі і паказальныя выступленні суднамадэлістаў. Выступленні парашутыстаў адмянілі з-за халоднага надвор'я.

Пераможцы ўзнагароджаны памятнымі прызамі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

# Стан футбольных палёў Маладзечаншчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошняе дзесяцігоддзе ў горадзе і раёне павялічылася колькасць футбольных каманд, якія ўдзельнічаюць у рэгулярным сезоне.**

Юных гульцоў рыхтуе гарадская ДЮСШ. Яшчэ ў Маладзечна прыязджаюць футбалісты са сталіцы і іншых мясцін. Гэта добра, бо пашыраецца геаграфія футбола. Акрамя горада, выйшлі на рэспубліканскі ўзровень, сталі вядомымі ўсёй краіне такія раённыя мястэчкі, як Чысць і Беразінскае.

Пры гэтым востра паўстала праблема якасных футбольных палёў. Для прафесіяналаў, якім плацяць грошы і ставяць задачы, – гэта рабочае месца, якое заўсёды павінна быць у поўным парадку. Для аматараў, што гуляюць не за грошы, гэта важнае складамае асалоды, якую яны атрымліваюць ад спорту нумар адзін. Для юнакоў – магчымасць расці ў майстэрстве, атрымаць прафесію, добра зарабляць у будучым.

Апошнія гады якасць гульнявых і трэніровачных палёў у горадзе і раёне выклікала вялікія нараканні. Абгарадзіць, падсеяць траву, падсыпаць пясок, паліваць, касіць – не такая і простая работа. Але ж і не складаная! Проста яе трэба выконваць. Нельга казаць, што ўлады, а менавіта дзяржаўным арганізацыям належаць усе дзеючыя "паляны", не прымаюць меры па выпраўленні сітуацыі. Мы памятаем рамонт поля на гарадскім стадыёне ў 2000 годзе, сёлета пасля паўтарагадовага перапынку запрацуе асноўнае поле ДЮСШ. Аднак значныя праблемы застаюцца.

## Гарадскі стадыён

Тут прымае сапернікаў па вышэйшай лізе (інспектары матчаў даўно ўжо не ставілі "пяцёрку" за якасць газона) мацнейшая наша каманда "Маладзечна-2000", некалькі разоў на год гуляюць аматары. Трэніроўкі на полі праводзіць забараняецца. Побач вельмі не хапае запаснога поля, таму кіраўніцтву клуба заўсёды даводзіцца шукаць месца для заняткаў.

## Чысць

У параўнанні з канцом 90-х стан газона пагоршыўся, але сёлета ўведзены новыя стаўкі для рабочых стадыёна, што абнадзейвае "Забудову" (другая ліга), якая кардынальна змяніла ў лепшы бок свой склад. На жаль, у марах засталіся планы аб пашырэнні поля (яно вельмі вузкае) і аб усталяванні запаснога ў ваколіцах пасёлка. Матчаў сёлета тут згуляюць нямнога, таму можна і патрэніравацца. Праўда, неабходны транспарт, каб прыехаць з горада за 20 кіламетраў.

## Беразінскае

За апошнія два гады выпала вялікая нагрузка: выступаў дубль "Маладзечна-2000" і на "вобласці" мясцовая каманда. Футбалісты і трэнеры кажуць, што ў спякотнае надвор'е поле становіцца "бетонным", а ў дажджлівае – "багністым". Праблема ў тым, што няма сістэмы паліву, а ўсталяваць не каштуе значных грошай. Сёлета ў абласным чэмпіянаце беразінцы ўдзельнічаць не будуць, магчыма, нагрузка на поле паменшае. І ўсё роўна, нельга выступаць на такім пакрыцці юным футбалістам, мэта якіх – прабіцца ў склад каманды вышэйшай лігі.

## Гарадская ДЮСШ

Пасля доўгатэрміновага рамонту сёлета выхаванцы школы змогуць праводзіць свае афіцыйныя матчы. Трэніравацца нельга будзе, бо відавочна не хапае травы, газон недастаткова трывалы. Заняткі ў хлапчукоў праходзяць на запаснай паляне ля раённай бальніцы і на стадыёнах сярэдніх школ. Стаіць праблема, каб памыцца пасля трэніровак і гульняў. А то ёсць прыклады, што ў прафесійных камандах хлопцаў вучаць мыцца пасля трэніроўкі. Магчыма, сёлета на асноўным стадыёне трэнеры ўласнымі намаганнямі наладзяць душавую.

## СШ№5

Апошнім часам поле СШ№5 стала "Меккай" футбольнага жыцця ў горадзе. Тут трэніруюцца, тут гуляюць, тут няма травы, тут пясок чуваць на зубах! Умовы прымальныя толькі, калі пройдзе дождж, і ўзімку. У астатні час футбалістам перашкаджае пыл. Прычым пасля трэніровак і матчаў у такіх умовах няма дзе памыцца ці пераапрануцца.

## Недахоп энтузіязму

Прыдатных для футбола палян дастаткова. Гэта і ПТВ-135, дзе некалі гуляў "Электрамодуль", і "Лакаматыў" у Залінейным раёне, і нёдалёка ад Заскавічаў. Усюды патрэбна адно – догляд.

Зразумела, што спартсмены, якія выступаюць у рэспубліканскім чэмпіянаце, самі рыхтаваць поле не будуць. Сапраўды, няхай лепш гэты час пойдзе на трэніроўкі. А юнакі ДЮСШ маюць права разлічваць на дапамогу дарослых. Сродкі могуць быць як бюджэтныя, так і прыватныя, калі спартыўны клуб разлічвае на перспектыву. Што тычыцца аматараў, то, з аднаго боку, можна ўжыць прынцып "Любіш катацца, любі і саначкі вазіць", а з другога боку, забеспячэнне вольнага часу насельніцтва – важная дзяржаўная работа.

Атрымліваецца ж заўсёды так: калі ёсць энтузіясты, ім любая справа па сілах. Калі такіх людзей днём з агнём не знойдзеш, то любая справа асуджаная на правал.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ **ФУТБОЛ, КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ**

5 красавіка. СШ№5. Маладзечна-2000 (дубль) – МТЗ-РІПА (Мінск, Д2, другі склад) 1:0 (Лявончык).

11 красавіка. СШ№5. Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна) 1:2.

Галы: Якубоўскі (64); Трухаў (10, 40).

Маладзечна-2000 (дубль) – Тарпеда (Жодзіна, дубль) 0:3.

12 красавіка. СШ№5. Маладзечна-2000 (дубль) – Забудова 2:2.

Галы: Калякін (44-пен), Аўчыннікаў (65); Грыхуцік (3, 19).

13 красавіка. Ліда. Ліда – Смаргонь 1:0.

■ **БАСКЕТБОЛ**

**ВАЛОЖЫН. У Івянцы адбыўся традыцыйны турнір па баскетболе.**

Было цікавае адкрыццё, падчас якога выхаванцы Івянецкай сярэдняй школы прадэманстравалі сваю адметную мастацкую самадзейнасць. Па заканчэнні турніру ўручаліся прызы, падрыхтаваныя мясцовымі спонсарамі: фабрыкай мастацкай керамікі і кандытарскай фабрыкай "Іўкон".

У мужчын прынялі ўдзел 6 каманд. Тройка прызёраў: 1. Івянец. 2. Валожын. 3. Заслаўе. Вылучаліся **Генадзь Жаўток, Леанід і Яўген Асіпацкія з Івянца, Аляксей Антонаў, Дзмітрый Чэрнік, Ігар Купцэвіч** з Валожына.

У жанчын выступілі 3 каманды. Перамагла зборная Валожына.

■ **МІНІ-ФУТБОЛ**

**МАЛАДЗЕЧНА. Напружанымі выдаліся апошнія тыдні для мясцовых футбалістаў-чыгуначнікаў, чым калектывам кіруе намеснік начальніка дыстанцыі пуцi Міхаіл Южык.**

Тыдзень таму на турніры памяці Арнольда Бохана абедзве іх каманды ўвайшлі ў прызёры. А ў мінулую нядзелю ездзілі на першынства Мінскага аддзялення чыгункі ў Барысаў.

У Барысаве сабраліся 6 каманд. У групавым турніры маладзечанцы перамаглі аршанцаў і мінчан, а ў фінале саступілі гаспадарам. З складзе вылучаліся Татун, Півавар, Смірноў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **АМАТАРСКІ СПОРТ**

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю ў райцэнтры адбыліся чэмпіянаты раёна па шашках, шахматах і настольным тэнісе.**

У шашках мацнейшым сярод мужчын быў **Леанід Козел**, сярод жанчын – **Сняжана Пісарчык**. У шахматах давялося праводзіць дадатковую гульню, каб выявіць пераможцу сярод мужчын: выйграў настаўнік **Мікалай Дудкоў**. У жанчын першае месца заваявала **Леанарда Пашкевіч**. У настольным тэнісе не было роўных Юрыю Шапэчку і школьніцы Наталлі Лапоха.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ**

18 красавіка. Дынама (Мінск) – Маладзечна-2000 +1=6-13 18-41. Летась 1:4 (Тартоўскі) на выездзе і 0:1 дома

19 красавіка. Вертыкаль (Калінкавічы) – Смаргонь

У другой лізе: +3=0-1 6-2.

Апошні матч 21.10.01 "Смаргонь" – "Вертыкаль" 2:0 (Чарнуха, Кошаль)

Заўвага. Баланс даецца па камандзе з рэгіёну незалежна ад таго, дзе яна выступае, дома ці на выездзе.

## ВІНШАВАНКІ

**Умілаваныя ў Хрысце браты і сёстры!**

"...Паяднаныя з усім Касцёлам перад Табой, каб урачыста адзначыць першы дзень тыдня, у якім Езус Хрыстус з мёртвых паўстаў..."

- (ІІ Малітва Эўхарыстычная)



Адзначаючы Велікоднае свята, мы павінны асабліва засяродзіцца на Езусе Хрысце Уваскрослым. З самага пачатку свайго існавання хрысціянства абвяшчае смерць і ўваскрэсенне Езуса. З мёртвых паўстанне Езуса — гэта фундамент хрысціянскай веры.
З мёртвых паўстанне Езуса з'яўляецца для нас аднаўленнем сувязі з Богам праз перамену людзей у дзяцей Божых.
З мёртвых паўстанне Езуса — гэта спаўненне чалавечай надзеі на несмяротнасць, на жыццё вечнае.
З мёртвых паўстанне Езуса — крыніца і аснова духоўнага аднаўлення, перамены чалавечай натуры праз вызваленне сябе з граху, смерці, крыніца і аснова вяртання свабоды і спакою.
З мёртвых паўстанне Езуса — гэта адкрыццё магчымасці сустрэчы з Ім у Эўхарыстыі, якая з'яўляецца працягам прысутнасці Уваскрослага Езуса сярод людзей на зямлі. "І вось Я з вамі ва ўсе дні да скончэння веку " (Мц 28,20).
Прыйшла вясна — надзея адраджэння жыцця, пацверджанага з мёртвых паўстаннем Хрыста. Ён сваёй смерцю адрадзіў нас да свабоды, вызваліў ад граху і вярнуў на жыццё вечнае ў небе. Вялікдзень — гэта свята трыумфу, перамогі, радасці.
З гэтай радаснай прычыны жадаю ўсім, каб моц Уваскрослага Хрыста напоўніла сэрцы верай і надзеяй, а любоў заўсёды жыла ў вашых сем'ях.
Нягледзячы на нялёгкае жыццё, клопаты, хваробы, пакуты няхай Езус з мёртвых паўсталы напоўніць вас аптымізмам, радасцю, надзеяй на лепшае заўтра, якое дае нам Пан.
Не наракайма, што цяпер дрэнны час. Мы з'яўляемся часам — будзьце добрымі, і час будзе лепшым!
Радуймася, браты, бо Пан Уваскрос! Аллелюя! Радуймася, бо Ён сапраўды Уваскрос! Аллелюя!

*З сардэчным святочным віншаваннем пробашч Касцёла Святога Юзафа ў Маладзечне, дэкан Вілейскага дэканату ксёндз-дэкан Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі.*

Віншую сястрычку **Танюшку** з днём нараджэння! Жадаю ўсяго найлепшага! Будзь вясёлай і здаровай! *Брацік Фёдар.*

**Апяцёнак Ірынку** віншуем з 15-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у вучобе і ўсіх даброт. *Мама, тата, Дзімка.*

Віншуем з днём нараджэння **Кулагу Святлану Мікалаеўну**! Жадаем здароўя і дабра, шчасця і сардэчнага цяпла. *Раман, Валодзя.*

Віншую дарагую куму **Танечку Касцевіч** з 25-годдзем. Здароўя, радасці і ўдачы табе, любая кума. *Кума Света з г. Вілейка.*

Віншуем з 25-годдзем **Касцевіч Таццяну Леанідаўну!** Жадаем шчасця, здароўя, надзейных сяброў, шчырасці. *Сям'я Андрашчук з г. Вілейка.*

Віншуем з днём нараджэння **Фальбу Аляксандра**! Здароўя, поспехаў, удачы, дабрабыту. *Суседзі Ульчыцы.*

**Сям'ю Сікорскіх.** Галя, Міша і ваша сям'я. З Вялікаднём. Здароўя, шчасця. *Пішчака.*

**Радыну Наталлю Казіміраўну і ўсю яе сям'ю**! Са святам. Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

**Мураўскую Раісу Мечыславаўну.** З Вялікаднём! Здароўя, шчасця, Боскай ласкі і апекі. *Рэгіна.*

**Аліну Жалубоўскую!** Алінка, З Вялікаднём! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

**Пішчаку Зою, Катажыну, Тарэску, Ірыну Канстанцінаўну!** Дарагія, з Вялікаднём! Здароўя, шчасця, беражы вас Бог. *Рэгіна.*

**Сароку Ірыну Антонаўну, Рудкевіч Яніну Мар'янаўну, Будзько Дануту Іванаўну!** Дзяўчаты, з Вялікаднём! Здароўя, шчасця, беражы вас Бог. *Рэгіна.*

**Савіцкіх Алену Нікадзімаўну, Паўла Фёдаравіча, Марыю Іванаўну.** З Вялікаднём! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

**Пробашча Пятра Пятрагу!** Дарагі пробашч, з Вялікаднём! Здароўя, Боскай дапамогі, ласкі і апёкі. *Парафіяне.*

Віншую сяброўку **Вікторыю Дзяніс** з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, аптымізму, кахання. *Ульяна Страшкевіч.*

Віншуем з днём нараджэння **Спача Я.Р.**! жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў. *Родныя.*

Віншуаем **Ірыну Шафаловіч** з юбілеем! Жадаем табе здароўя, шчасця, кахання, багацця. *Сям'я Лапіцкіх.*

Віншую любімага сына **Дзяніску** з днём нараджэння! Здароўя, поспехаў, верных сяброў. *Мама.*

Сонейка наша, унучок **Данік Якавіцкі!** Віншуем цябе з днём нараджэння! Расці здаровым, разумным і шчаслівым. *Бабуля Люда і дзядуля Толя.*

Віншуем з 20-годдзем любімага сына **Жаўтко Андрэя**! Жадаем здароўя, кахання, ласкавых усмешак і ўдачы. *Мама, тата, сёстры.*

Віншую Іваненка Вольгу з 15-годдзем. Жадаю здароўя, поспехаў у вучобе, кахання, здароўя, ласкавых усмешак, удачы. *Даша.*

**Шайко Таццяну Іванаўну** з г. Вілейка з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, усяго самага найлепшага. *Лена, Дзяніс.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога бацьку **Ляцагу Іосіфа Іванавіча**! Жадаем здароўя, шчасця. *Сын, нявестка, унучка.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Стройная жанчына 34/167, в/а, без жыллёвых праблем пазнаёміцца з самастойным мужчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, н/п МС 0651415.

Малады чалавек 32/185/76 пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносін. Адрас: Маладзечна 3, н/п МС 0307723.

**Купон 16** | Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Падарунак ад немцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень у горадзе былі прадстаўнікі нямецкага «Чырвонага Крыжа» з Кронсхагена.**

Яны перадалі Маладзечанскаму гаррайаддзелу па надзвычайных сітуацыях пажарны аўтамабіль-аўтацыстэрну для тушэння пажару з неабходным абсталяваннем. Машына практычна новая. Падобнай у «пажарцы» не было. Яна каштоўная сваім невялікім памерам, манеўранасцю, малым расходам паліва.

Цяпер Маладзечаншчыну абслугоўвае 52 машыны, 7 з іх – нямецкія. Яшчэ немцы прывезлі спецыфічнае спецадзенне, якога ў маладзечанцаў таксама не было. Вопратка вартая для выратавальных работ.

**Ірына РАБУШКА.**



**За рулём пажарнай машыны, якую падарылі нямецкія сябры, камандзір аддзялення Маладзечанскай пажарнай часці №1 Сяргей Шакун. Побач старшы пажарны Андрэй Сіліцкі.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Кінатэатр «Радзіма»



**18-20 красавіка. "Перавозчык"**, ЗША, баявік-дэтэктыў – у 17.00 і 19.00. 19 і 20 красавіка – 15.00, 17.00 і 19.00.
**"24 гадзіны"**, ЗША, трылер, акрамя дзяцей да 16 гадоў, — у 21.00.
**21-27 красавіка. "Смокінг"**, ЗША, камедыйны баявік – у 17.00 і 21.10.
**"Памры, але не цяпер"** ("Джэймс Бонд вяртаецца..."), ЗША, баявік – у 19.00.

### Для дзяцей

**19-20 красавіка. "Сцюарт Літл-2"**, ЗША, камедыя – у 13.00.

**Запрашаем на маладзёжныя вечарынкі ў пятніцу і суботу ў 22.00.** Дыскатэка для падлеткаў – у суботу, у 19.00. Прыходзьце! Будзе весела. Працуе бар.

**Камп'ютэрныя гульні** (прыстаўка "Соні"). Штодзённа, акрамя панядзелка, з 10.00 да 22.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-90.

■ **ІМЯНІНЫ**

**18 красавіка**
**Праваслаўныя**: Фядоры, Марка, Платона, Палікарпа.
**Каталіцкія**: Аліцыі, Апалонія, Багуслава.

**19 красавіка**
**Праваслаўныя**: Мяфодзія, Яўціхія.
**Каталіцкія**: Адольфа, Лявона, Уладзміра.

**20 красавіка**
**Праваслаўныя**: Акуліны, Георгія, Данілы.
**Каталіцкія**: Агнешкі, Часлава.

**21 красавіка**
**Праваслаўныя**: Флягонта.
**Каталіцкія**: Анзельма, Конрада, Фелікса.

**22 красавіка**
**Праваслаўныя**: Вадзіма.
**Каталіцкія**: Лукача, Лявона.

**23 красавіка**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Зіновія, Максіма, Якава.
**Каталіцкія**: Войцэха, Ежы.

**24 красавіка**
**Праваслаўныя**: Анціпа, Івана, Якава.
**Каталіцкія**: Аляксандра, Рыгора.

■ **ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**

## Пасха тварожная

На сярэдняй велічыні форму вазьміце 2,8 кг свежага тварагу, пакладзіце яго на 10-12 гадзін пад прэс, потым пратрыце праз сіта. Дадайце 1 шклянку смятаны, 200 г сметанковага масла, 2 чайныя лыжкі солі, 0,5 шклянкі цукру. Масу перамяшайце, каб не было камякоў, запоўніце ёю форму, выкладзеную ўнутры тонкай сурвэткай, накрыйце дошчачкай і пакладзіце цяжар. Пра суткі пасху выкладзіце на блюда.

У тварог можна класці з цукрам ванілін або цэдру лімонную, добра стоўчаны міндаль або разынкі.

**Проста Марыя.**

# Адэнома прастаты. Быць ці не быць?

Сакрат у свой час заўважыў, што мочаспусканне – адзінае задавальненне, за якое не трэба плаціць. Маладыя людзі гэта выказванне ўспрымаюць з яхіднай усмешкай. А вось многія сталыя мужчыны вельмі добра разумеюць, што меў на ўвазе мудры філосаф. Па статыстыцы, у кожнага другога беларускага мужчыны старэй за 40 гадоў дыягнастуецца адэнома прастаты, ці як яе прынята цяпер называць дабраякасная гіперплазія прастаты. Менавіта гэта захворванне выклікае парушэнні працэсу мочаспускання ў мужчын.

Асноўная прычына павелічэння прастаты – гармапальныя змяненні ў старэючым арганізме мужчыны. Прастата пры гэтым робіцца ацёчнай і сціскае мочаспускальны канал, які праходзіць унутры залозы, што і абумоўлівае парушэнне мочаспускання.

Лічыцца, што захворванне пачынаецца ў той момант, калі мочаспусканне, асабліва з напоўненым мачавым пузыром, перастае прыносіць задавальненне. Праз некаторы час з'яўляецца частае мочаспусканне, якое робіцца менш свабодным, менш інтэнсіўным. Струмень мачы робіцца больш слабым, колькасць мачы за адзін раз змяншаецца. Вельмі характэрным з'яўляецца неабходнасць хадзіць у туалет ноччу, чаго раней звычайна не назіралася. Яшчэ адзін сімптом адэномы на гэтай стадыі – з'яўленне такіх моцных пазываў да мочаспускання, што чалавек не можа яго адтэрмінаваць на кароткі час.

Па скончэнні вызначанага часу мачыцца становіцца больш цяжка. Пры мочаспусканні прыходзіцца моцна напружваць мышцы жывата. Часам хворыя адэномай так стамляюцца, што падчас мочаспускання ім прыходзіцца рабіць перапынкі для адпачынку. З часам пры адсутнасці лячэння ў такіх хворых пачынаюць паражацца ныркі, развіваецца ныркачная недастатковасць, што праяўляецца галаўным болем, смагай, сухасцю ў роце, слабасцю, раздражнёнасцю. Мачавы пузыр заўсёды перапоўнены. Адначасова з гэтым заўважаецца нетрыманне мачы, г.зн., мача вылучаецца па кроплі пастаянна і супраць жадання хворага, спачатку ноччу, а потым і круглыя суткі.

На жаль, амаль усе мужчыны звязваюць гэта са старасцю, як сівізна ці маршчыны. Або звязваюць яшчэ з чым-небудзь і не звяртаюцца да доктара.

Такім чынам, яны не атрымліваюць неабходнага лячэння і ўзвальваюць на свае плечы груз цяжкіх праблем. А здаецца, што можа быць лягчэй: пры з'яўленні першых сімптомаў звярнуцца да доктара-ўролага. Спецыяліст выпрашыць, адправіць пацыента на дэталёвае абследаванне ці адразу назначыць медыкаментозную тэрапію. Зняць ацёк, паменшыць аб'ём прастаты і такім чынам палепшыць стан хворага – вось асноўная задача доктара.

Лячэнне пацыентаў з дабраякаснай гіперплазіяй прастаты традыцыйна ідзе па двух напрамках: хірургічнае і тэрапеўтычнае. Калі хвароба суправаджаецца затрымкай мачы, наяўнасцю ў ёй крыві, інфекцыяй у мачавых пуцях і камянямі ў мачавым пузыры, гэта паказанні да хірургічнага ўмяшання. Але аперацыі можна і пазбегнуць. Трэба толькі своечасова звярнуцца да доктара. У стадыі лёгкай і сярэдняй ступені цяжкасці хваробы лячэнне адэномы можна праводзіць тэрапеўтычнымі метадамі.

На сённяшні дзень ужо даказана эфектыўнасць працяглага медыкаментознага лячэння дабраякаснай гіперплазіі прастаты. Існуе вялікі выбар прэпаратаў, з якіх можна вылучыць гармапальныя, сінтэтычныя і раслінныя сродкі. Аднак тэрапеўтычны эфект гармапальных прэпаратаў пры працяглым лячэнні суправаджаецца часам радам пабочных дзеянняў, такіх, як імпатэнцыя, павелічэнне грудных залоз і інш. Паляпшэнне стану пацыентаў на фоне сінтэтычных прэпаратаў наступае хутка, але яны маюць рад пабочных дзеянняў: абвастрэнне сімптомаў стэнакардыі, тахікардыі, падзенне артэрыяльнага ціску, галаўны боль, слабасць.

У апошнія гады на першы план у барацьбе з адэномай прастаты выходзяць прэпараты, выробленыя з расліннай сыравіны. Яны не валодаюць такім хуткім эфектам, як вышэйпералічаныя сродкі, затое дзеянне ў іх мяккае, яны бясшкодныя і высокаэфектыўныя.

Урэшце, прызначыць тэрапеўтычнае лячэнне можа толькі доктар. Урологі з жалем канстатуюць, што калі хваробу запусціць, у некаторых выпадках аперацыя можа быць паказана хворым ужо у час першага візіту да доктара. Таму пры першых жа сімптомах, адкінуўшы беспадстаўны сорам, трэба паказацца спецыялісту.

**Вячаслаў ТКАЧ.**

# Вілейскага суддзю паправілі

14 снежня 2001 года у Вілейскім раённым судзе суддзя Уладзімір Емельяновіч аштрафаваў старшыню мясцовай арганізацыі АГП Уладзіміра Малярчука на 20 мінімальных зарплат. Праз год і чатыры месяцы старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала пастанавіў адмяніць пастанову суда Вілейскага раёна і спыніць справу за адсутнасцю ў дзеяннях Уладзіміра Малярчука складу правапарушэння.

Што ж адбылося на самой справе. У канцы пазамінулага года у рамках кампаніі "Хочам ведаць праўду!" у гарадскім парку Вілейкі актывісты розных палітычных партый і проста палітычна актыўныя грамадзяне выйшлі з партрэтамі зніклых вядомых людзей Беларусі. Суд Вілейскага раёна аштрафаваў Уладзіміра Малярчука за ўдзел у несанкцыянаваным пікетаванні на 20 мінімальных зарплат. На той час гэта складала 200 тысяч рублёў.

Пастанова Вілейскага суда была адмененая на наступных падставах. Адпаведна артыкулу 2 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні", пікетаванне – гэта публічнае выказванне грамадзянінам або групай грамадзян грамадска–палітычных, групавых, асабістых і іншых інтарэсаў або пратэсту (без шэсця), у тым ліку галадоўкі, па якіх–кольвечы праблемах з выкарыстаннем плакатаў, транспарантаў і іншых сродкаў. Уладзімір Малярчук знаходзіўся ў групе грамадзян, якія стаялі, трымалі ў руках партрэты зніклых людзей, канстатуючы факт іх знікнення. Сам таксама трымаў адзін з партрэтаў. Аднак згаданых у Законе інтарэсаў або пратэсту, напісана ў пастанове Вярхоўнага суддзі, Малярчук не выказваў.

Адмена пастановы Вілейскага суда – прэцэдэнт у беларускай судовай практыцы. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль



14 снежня 2001 года пасля вынясення пастановы раённым судом у Вілейцы, які аштрафаваў віляйчаніна Уладзіміра Малярчука на 20 мінімальных зарплат, той сказаў: "Я стаяў з партрэтам Захаранкі. У судзе пытаюся: "Які патрэбны дазвол на маўклівае стаянне?". А яны ў мяне: "Пра што вы думалі, калі стаялі?". Сёння Уладзімір Малярчук дабіўся праўды. Фота з архіва "РГ".

Лябедзька лічыць, што гэта пастанова уносіць нарэшце яснасць ва ўзаемаадносіны грамадзян краіны і органаў дзяржаўнаў улады, уключаючы суды, па такім пытанні, як правядзенне мерапрыемстваў у такім фармаце, калі людзі стаяць з партрэтамі зніклых палітыкаў. Да гэтай пастановы не было аднастаўнасці. Калі ў Мінску і шэрагу іншых рэгіёнаў да нашых дзеянняў з боку ўлад былі карэктныя адносіны, ніхто не парушаў ні канстытуцыю, ні закон, то ў ва многіх месцах дзесяткі людзей пайшлі пад рэпрэсіі, штрафы, фізічны гвалт. Захоп іх супрацоўнікамі міліцыі праводзіцца менавіта за тое, што яны стаялі з партрэтамі зніклых людзей у тым або іншым пункце горада, мястэчка. Таму з вынясеннем рашэння Старшыні Вярхоўнага Суда ствараецца прэцэдэнт, калі пацярпелыя ад самавольства мясцовых улад людзі могуць звяртацца да незаконных судовых рашэнняў для таго, каб абскардзіць іх хай і са спазненнем, але адстояць свае правы.

**Мікола ГАЙДУК.**



Вілейка, 9 снежня 2001 года. У акцыі «Хочам ведаць праўду» ўдзельнічала звыш за 30 чалавек. Фота з архіва «РГ».

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 17.4 дзень | 17.4 вечар | 18.4 дзень | 18.4 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 750 | 748 | 750 | 750 |
| тэмпература паветра, °С | 11 | 8 | 12 | 7 |
| вільготнасць паветра, % | 89 | 94 | 77 | 82 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 4-7 | 4-7 |

| Вільня | 17.4 дзень | 17.4 вечар | 18.4 дзень | 18.4 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 757 | 755 | 757 | 757 |
| тэмпература паветра, °С | 10 | 6 | 11 | 6 |
| вільготнасць паветра, % | 87 | 92 | 81 | 86 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 4-7 | 4-7 |

## Гараскоп 21 – 27 красавіка



**Авен (21.03–20.04)**

Для большасці Авенаў гэты перыяд – самы спрыяльны для работы. Аднак будзьце гатовы да таго, што прыйдзецца часта браць на сябе адказнасць пры вырашэнні складаных задач. Хутчэй за ўсё ў сям'і вас будуць бачыць рэдка. Затое надыходзячыя святы вы зможаце правесці з размахам.



**Цялец (21.04–21.05)**

Падыдзіце да люстэрка. Бляск у вачах у вас зусім не ад прастуды – гэта адлюстраванне ззяння зорак. Яны ўдыхаюць у вас магічную сілу і надзяляюць чарадзейным абаяннем. Не траціце часу дарэмна: хутка могуць ажыццявіцца вашыя самыя амбіцыёзныя планы і споўняцца самыя запаветныя мары.



**Блізняты (22.05–21.06)**

У апошні час вы сталі вельмі раздражнёныя: напэўна, стаміліся ад паўсядзённасці і жадаеце чаго-небудзь новага. Можа, справа, якой вы занятыя ў дадзены момант, не адказвае вашым памкненням і варта сапраўды штосьці змяніць у сваім жыцці.



**Рак (22.06–23.07)**

Здаецца, вы ўжо расправіліся з асноўнымі праблемамі, але, як назло, з'яўляюцца новыя і новыя. І зноў вы – адзіны чалавек, якому па сілах з імі справіцца. Але хутка вас чакае ўзнагароджанне, так што можна будзе як след адпачыць і расслабіцца.



**Леў (24.07–23.08)**

Сэрца Львоў прагне прыгод, і лёс у гэтым вам паспрыяе. Вы на парозе шалёнага рамана. Пастарайцеся часцей выходзіць у свет. А можа, варта проста ўважліва агледзецца: мабыць, хтосьці з навакольных даўно шукае вашай прыхільнасці...



**Дзева (24.08–23.09)**

Вясенняя хандра зусім выбіла вас з каляіны. Неабходна часцей бачыцца з сябрамі. Не бяда, што пасля застаецца гара бруднай пасуды і пусцее халадзільнік: на адной з вечарынак адбудзецца нешта прыемнае, што падыме вам настрой і нават зменіць вашае жыццё...



**Шалі (24.09–23.10)**

Вам неабходны адпачынак. З'ездзіце куды-небудзь на тыдзень. Ды і ваша палавіна даўно марыць, каб вы хоць на нейкі час забыліся пра работу і пабылі з ім самнасам, а не праводзілі суткі напралёт у абдымках службовага крэсла і тэлефона.



**Казярог (22.12–20.01)**

Вы так загружаны работай, што часу на ўласнае жыццё амаль не застаецца. Аднак набліжаюцца вялікія перамены – вы атрымаеце шанс прасунуцца па службе і каханы чалавек (калі вы яму сапраўды дарагія) аднясецца да гэтага з разуменнем.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

У бліжэйшы час вам наўрад ці ўдасца пазбавіцца ад дамашніх клопатаў. Затое вам удасца закласці трывалы падмурак утульнага дома і добрай сям'і. Смела бярыцеся за любыя справы, якія дазволяць вам праявіць творчы падыход і раскрыць у сабе новыя здольнасці.



**Стралец (23.11–21.12)**

У гэты перыяд вы – любімчык зорак. Вас чакае многа добрых вестак і прыемных сюрпрызаў. Бярыцеся за любыя справы. Зоркі падкажуць вам правільнае рашэнне, а калі хто з зайздроснікаў захоча перашкодзіць, не хвалюйцеся: анёл-ахоўнік не дасць вас пакрыўдзіць.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Нарэшце вырашацца супярэчнасці, узнікшыя паміж вамі і вашымі блізкімі, а дамашняя абстаноўка стане больш душэўнай. Галоўнае – не паўтарыць ранейшых памылак. Удзяляйце больш увагі родным. А работа можа і пачакаць – вы і так добра папрацавалі.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Хутка перад вамі адкрыюцца дадатковыя крыніцы даходу, што дасць магчымасць праявіць сябе ў іншай якасці. Вядома ж, прыбавіцца і спраў, і праблем, але кіраўніцтва ацэніць вашы намаганні, а калегі ахвотна падтрымаюць і дапамогуць ажыццявіць любыя смелыя ідэі.



## Чытайце праз тыдзень:

- **Выпускнік-2003.** Прафесіі бухгалтара і мастака сёлетнім маладзечанскім выпускнікам падабаюцца больш за ўсё. А прафесіі цесляра і муляра ў моладзі выклікаюць смех.
- **Адкінутыя людзі.** Як жывуць у маладзечанскіх прытонах?


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227
**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 10800 экз.
Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. № 16 (417) 18.4.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11.
Зак. № 1490. Падпісана ў друк у 13.00 17.4.2003



Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by


### Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667, 53841**.
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284**.
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. **33077**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211**.
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172**.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444